

З КАЛЯДАМІ!


# Рэгіянальная газета. Rh.by

25 год мы з вамі!

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

25 снежня 2020 года №52 (1339)

18+




# Чым запомніўся 2020



## каронавірус



## пратэсты




## салідарнасць

Фота Настассі УТКІНАЙ.


ISSN 1991–7155




Адсканіруйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



Доктар з Маладзечна расказаў гісторыю жыцця сваёй сястры – грамадзянкі Швейцарыі Наталлі Хершэ. Жанчына атрымала два з паловай гады зняволення за знятую з амапаўца балаклаву


старонкі 20-21



Фота yandex.by.

Будынак суда ў Смаргоні.

# Смаргонка, аштрафаваная за ўдзел у пратэсце, паскардзілася ў ААН

**Жыхарка Смаргоні Наталля Усік 6 верасня ў сваім горадзе паўдзельнічала ў шэсці па вуліцах горада. А 18 верасня пастановай суда Смаргонскага раёна за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве яе аштрафавалі.**

СМАРГОНЬ

Пакаранне Наталля палічыла незаконным і неабгрунтаваным, а таму абскардзіла ў Гродзенскі абласны суд, расказаў смаргонскі праваабаронца **Алесь Дзергачоў**.

У скарзе яна адзначыла, што палажэнні Закона «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь» носяць дыскрымінацыйны характар.

Калі дзяржаўныя арганізацыі маюць права праводзіць масавыя мерапрыемствы ў любы час і зручных месцах, то ўсе астатнія арганізацыі і грамадзяне – толькі пасля папярэджання за 15 дзён, у вызначаных месцах і аплатай за паслугі міліцыі, камунальнай службы, «хуткай дапамогі».

Такое палажэнне Наталля Усік лічыць дыскрымінацыяй недзяржаўнага сектара грамадства, у тым ліку і яе асабіста. А гэта забаронена артыкулам 2 Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах. Таму яна лічыць, што ў выніку дыскрымінацыі парушанае таксама яе права на мірныя сходы, гарантаванае артыкулам 21 пакта.

Суддзя Гродзенскага абласнога суда **Валеры Рамаиоўскі** палічыў довады скаргі на пастанову суддзі суда Смаргонскага раёна **Людмілы Міхневіч** няслушнымі і скаргу адхіліў. Таму Наталля Усік мусіла падаць скаргу ў Камітэт ААН па правах чалавека, які размешчаны ў Жэневе.

У скарзе яна просіць устанавіць факт парушэння Рэспублікай Беларусь артыкулаў 2 і 21 пакта, рэкамендаваць Рэспубліцы Беларусь кампенсаваць нанесеную ёй маральную і матэрыяльную шкоду, а таксама прывесці ў адпаведнасць са згаданымі артыкуламі пакта Закон «Аб масавых мерапрыемствах у Рэспубліцы Беларусь».

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Дайджэст: Стварылі базу пратэстоўцаў, павышаюць мінімалку

## Прыгадваем, што адбывалася на мінулым тыдні

**Прапануем прыгадаць падзеі, якія адбываліся ў Беларусі на мінулым тыдні.**

### Пачнецца вакцынацыя ад каронавіруса

Па словах міністра аховы здароўя **Піневіча**, партыя вакцыны паступіць у студзені. Тады ж і пачнуць вакцынацыю. На першым этапе вакцынацыі будуць падлягаць медыцынскія работнікі, настаўнікі, работнікі гандлю і іншых сфер, вымушаныя ў сілу прафесіі кантактаваць з вялікай колькасцю людзей. Вакцыну яны атрымаюць бясплатна.

### МУС заявіла, што стварыла базу пратэстоўцаў

Міністэрства ўнутраных спраў стварыла базу ўдзельнікаў несанкцыянаваных акцый, паведаміў на канале «Беларусь-1» начальнік упраўлення аховы правапарадку і прафілактыкі міліцыі грамадскай бяспекі ГУУС Мінгарвыканкама **Аляксандр Купчэня**. Такое рашэнне ў міністэрстве прынялі «пасля падзей 9 жніўня». Заносяць у базу не толькі затрыманых, але ідэнтыфікаваных асоб.

### МУС: Выстаўлены ў акно чырвона-зялёны сцяг не будзем лічыць пікетам

Намеснік міністра ўнутраных спраў **Юры Назаранка** тлумачыць, каго і як караюць за сімволіку на лоджыях і ў вокнах.

«Любое публічнае выказванне грамадзянінам альбо групай грамадзян з выкарыстаннем альбо без выкарыстання плакатаў, транспарантаў, іншых сродкаў з'яўляецца пікетаваннем», – заявіў ён падчас прамой лініі.

**Тым, хто нязгодны з такой трактоўкай, ён параіў звяртацца ў суд.**

Але калі на акне будзе вывешаны цяперашні дзяржаўны сцяг, гэта таксама будзе лічыцца пікетаваннем?

«Дзяржаўны – не», – лічыць Назаранка.

### Мінімальны заробак ад 1 студзеня – 400 рублёў

Гэта прадугледжана пастановай урада. З 1 студзеня 2020 года мінімалка складала 375 рублёў. 400 рублёў – гэта 155 долараў па сярэднім курсе за лістапад, або 131 еўра.

**Паводле Міністэрства аховы здароўя, БелТА, tut.by.**




Фота Ігара ПАЛЬЫНСКАГА.

Праект маладзечанскай вуліцы стрыт-фуда таксама ўдзельнічаў у конкурсе праектаў Social Weekend.

# Хочаце штосьці стварыць? Лавіце магчымасць!

## Буйны конкурс сацыяльных праектаў у Беларусі пачаў прымаць заяўкі

**Каб сабраць усіх летуценнікаў і летуценніц разам, падтрымаць неабыякавых людзей, якія хочуць прынесці карысць Беларусі ўжо ў бліжэйшай будучыні, арганізатары найбуйнейшага конкурсу сацыяльных праектаў Social Weekend абвяшчаюць старт шаснаццатага сезона. Заяўкі прымаюць да 28 лютага 2021 года.**

Конкурс пройдзе пад слоганам «А ты паспрабуй!» – такім чынам каманда Social Weekend заклікае не апускаць рукі, а брацца за справу. Нават калі здаецца, што ідэя занадта цяжкая для рэалізацыі. Каб як мага больш задумак змагло ўвасобіцца ў рэальнасць, тэрмін конкурсу ў гэты раз падоўжаны.

– Звычайна сезон конкурсу доўжыцца пяць месяцаў, і гэта вельмі інтэнсіўная праца і для ўдзельнікаў, і для нашай каманды, – расказвае пра нованўвядзенні конкурсу дырэктар мясцовага фонду «Добра», кіраўнік Social Weekend **Аляксандр Скрабоўскі**.

> **– У мінулым сезоне мы атрымалі 470 заявак і бачылі складанасць у тым, што людзі з незвычайнымі ідэямі не ўмеюць пра іх даступна распавесці на старце.**

Здольнасць растлумачыць сутнасць праекта за кароткі час, прэзентаваць вынікі і распавесці аб паспяховым досведзе не менш важныя, чым сам досвед.

Цяпер мы будзем вырашаць праблему камунікацыі аўтараў ідэй і іх патэнцыйнай мэтавай аўдыторыі з першых дзён знаёмства. Нават для тых, хто не трапіць на навучанне. Мы працягнулі сезон яшчэ на месяц і прысвецім гэты час пошуку дадатковых рэсурсаў і дапамогі кожнаму праекту.

**Прыняць удзел у Social Weekend могуць людзі з любымі ідэямі, якія накіраваныя на развіццё культуры, грамадства, інфраструктуры, медыцыны, адукацыі, навукі і іншых сфер жыцця.**

Грошы ад мецэнатаў і кампаній праекты атрымаюць на першыя крокі праекта-фіналіста. У мінулым, пятнаццаты Social Weekend, каманды атрымалі падтрымку на суму больш за 100 тысяч рублёў.

– Часта сацыяльны праект успрымаюць як рашэнне той ці іншай праблемы, аднак мы чакаем праекты, якія даюць новыя магчымасці, адкрываюць новыя падыходы.

> **Падаць заяўку можа любы чалавек ці арганізацыя. Няма і абмежаванняў па ўзросце.**

Акрамя таго, форма заяўкі спрашчаецца ад сезона да сезона, таму падзяліцца сваёй ідэяй з шырокай аўдыторыяй становіцца ўсё прасцей, – дапаўняе каардынатар Social Weekend **Таццяна Траяновіч**.

**Сярод удзельнікаў Social Weekend – маладзечанская «Вуліца стрыт-фуда», вілейскі скейт-парк, пошукава-выратавальны атрад «Анёл».**

Да народнага галасавання і экспертнага адбору праектаў усе, хто падаў заяўку на конкурс, змогуць паўдзельнічаць у бясплатных семінарах, дзе даведаюцца базавую інфармацыю па запуску праекта, працы з супольнасцю і пошуку рэсурсаў для сваёй ініцыятывы.

Арганізатар Social Weekend – мясцовы сацыяльны фонд «Добра», мэта якога – прыцягненне рэсурсаў бізнесу: інтэлектуальных, грашовых і іншых – для інвеставання ў сацыяльныя стартапы і дасягненне мэт устойлівага развіцця. Фонд таксама з'яўляецца Офісам Сеткі Глабальнага дагавора ААН у Беларусі.

**Паводле паведамлення конкурсу сацыяльных праектаў Social Weekend.**

---

**ЛІЧБА НУМАРА**

**5 355**

столькі аб'ектаў гісторыка-культурных каштоўнасцей у Беларусі

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 17.12 | 23.12 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 2.5249 | **2.5658** |
| Еўра | 3.0744 | **3.1363** |
| Злоты, 10 | 6.9496 | **6.9538** |
| Расійскі рубель, 100 | 3.4403 | **3.4095** |
| Грыўня, 100 | 9.1003 | **9.0901** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **16.12** | **22.12** |
| Еўра | 3.0200/3.1200 | **3.0700/3.1800** |
| Долар ЗША | 2.4800/2.5700 | **2.5200/2.6100** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 16.12 | 22.12 |
| | Цана, руб. | |
| Кілбаса «Мядовая», 1 кг | 23,96 | **23,96** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,10 | **3,10** |
| Сасіскі, 1 кг | 7,87 | **7,87** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 9,50 | **9,50** |
| Карп жывы, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,70 | **4,70** |
| Селядзец, 1 кг | 5,80 | **5,80** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 17,80 | **17,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,15 | **2,15** |
| Рыс, 0,8 кг | 2,40 | **2,40** |
| Алей, 1 л | 3,40 | **3,40** |
| Кава «Nescafe», 100 г | 5,50 | **5,50** |
| Маянэз, 400 г | 2,20 | **2,20** |
| Соус «Мінскі», 0,5 л | 1,70 | **1,70** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,70 | **1,70** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 2,10 | **2,10** |
| Агуркі, 1 кг | 4,90 | **4,30** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,90 | **6,90** |
| Бульба, 1 кг | 0,40 | **0,40** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,60** |
| Капуста, 1 кг | 0,45 | **0,45** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,90** |
| Морква, 1 кг | 0,80 | **0,80** |
| Памідоры, 1 кг | 5,50 | **4,50** |
| Перац, 1 кг | 6,90 | **6,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5,90 | **0,90** |
| Часнок, 1 кг | 5,90 | **5,90** |
| Шампіньёны, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Авакада, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Апельсіны, 1 кг | 4,90 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,60 | **2,60** |
| Вінаград, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Гранат, 1 кг | 4,90 | **4,90** |
| Грушы, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Лімон, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,90 | **4,50** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 2,20 | **2,20** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | |
| Малако, 1,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Масла, 1 кг | 17,00 | **17,00** |
| Сала, 1 кг | 13,00 | **13,00** |
| Сыр, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Тварог, 1 кг | 8,00 | **8,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 4,00 | **4,00** |

## У шматдзетнай сям'і муж пагражаў забіць жонку. Умяшалася міліцыя

МАЛАДЗЕЧНА

Званок з просьбай аб дапамозе на лінію 102 паступіў днямі ад 40-гадовай пацярпелай з Радашкавічаў. Жанчына расказала, што былы муж, знаходзячыся ў нецвярозым стане, з нажом, пагражаў фізічнай расправай.

Калі міліцыянеры прыехалі на месца, высветлілася, што сварка паміж былымі мужам і жонкай, якія ў сілу жыццёвых абставін вымушаны жыць пад адным дахам, пачалася з вуснай заўвагі. Жанчыне не спадабалася, што муж з раніцы выпіў, не дапамагаў па гаспадарцы і ў выхаванні дзяцей.

У сям'і на ўтрыманні чацвёра непаўналетніх, самаму малодшаму шэсць месяцаў, старэйшаму – 14 гадоў.

Мужчына ўжо чацверты год нідзе не працуе.

Падчас канфлікту ён вырашыў выкарыстаць кухонны нож, якім рэзаў прадукты. Пацярпелая баялася за сваё жыццё. Спалоханая да смерці жанчына змагла ўцячы ад п'янага мужа і звярнулася па дапамогу да суседкі, адтуль і патэлефанавалі ў міліцыю.

Дзеянням 51-гадовага жыхара гарадскога пасёлка дадзеная прававая ацэнка. Узбуджаная крымінальная справа па арт. 186 КК Рэспублікі Беларусь «Пагроза забойствам, прычыненнем цяжкіх цялесных пашкоджанняў або знішчэннем маёмасці».

**УУС Мінаблвыканкама.**

## У спартшколе працаваў трэнер з падробным дыпломам

АШМЯНЫ

Два гады таму 52-гадовы ашмянец уладкаваўся выкладаць цяжкую атлетыку ў мясцовую спартшколу. Але прадставіў дыплом Абхазскага ўніверсітэта, у якім не вучыўся.

Маючы падазрэнні, міліцыя Ашмянаў накіравала ў тую навучальную ўстанову адпаведныя запыты. На іх прыйшоў адказ, што жыхар Ашмянаў там не вучыўся.

Аказалася, што праз знаёмых грамадзянін змог атрымаць дыплом з Абхазскага ўніверсітэта, не навучаючыся там. Дакумент быў сапраўдны, але ведаў і кваліфікацыі мужчына не меў, таму выкладаць спартыўныя дысцыпліны не мог.

Дзеянням мужчыны даюць прававую ацэнку.

**Паводле УУС Гродна.**

## На Вілейскім вадасховішчы загінуў рыбак

ВІЛЕЙКА

Пра здарэнне, што адбылося каля Рабуні, карэспандэнту расказаў начальнік Вілейскай выратавальнай станцыі **Ягор Роўда**:

– 19 снежня ў 10:30 нам патэлефанавалі з Вілейскага РАУС. Да іх звярнуўся мужчына – рыбак з Вілейскага вадасховішча. Паведаміў, што палатка каля яго сталіць пустая. Побач – рэчы. А гаспадара няма.

Калі выратавальнікі прыехалі на месца, убачылі, што ў метрах ста каля пустой палаткі – прамыіна. Пачалі абследаваць дно, і ў прамыіне знайшлі загінулага рыбака. Асобу ўстанавілі. Гэта 57-гадовы жыхар Прылукаў, што ў Мінскім раёне.

– Па маіх меркаваннях, мужчына зваліўся ў ваду ці раніцай, ці вечарам напярэдадні. На лбе ў яго быў ліхтарык. Значыць, трагедыя здарылася ў цёмны час, – кажа Ягор Аляксандравіч.

Выратавальнікі перакаанаўча просяць рыбакоў быць вельмі асцярожнымі. Лёд цяпер тонкі, а аматараў рыбалкі шмат. Таксама выратавальнікі нагадваюць, што дзейнічае забарона выхаду на лёд.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Віляйчук абразіў міліцыянера ў тэлеграме. Завялі крымінальную справу

ВІЛЕЙКА

Пракуратура Вілейскага раёна накіравала ў суд крымінальную справу аб публічнай абразе прадстаўніка ўлады.

У гэтым абвінавачваюць 30-гадовага вілейчука, паведамляе Генпракуратура ў сваім тэлеграм-канале.

23 верасня ў чаце ў тэлеграме да фатаграфіі супрацоўніка Вілейскага РАУС абвінавачаны напісаў каментарый абразлівага зместу, у якім выкарыстаў ненарматыўную лексіку.

Пракурор кваліфікаваў дзеянні вілейчука па артыкуле 369 Крымінальнага кодэкса. Санкцыя гэтага артыкула – грамадскія працы альбо штраф, альбо выпраўленчыя працы да двух год, альбо арышт ці абмежаванне свабоды да трох год.

**Паводле Генеральнай пракуратуры Беларусі.**



Мужчына змог наладзіць жыццё для сябе і сваіх дзяцей.

# Малодшы сын нават не помніў маці

## Маладзечанец адсудзіў бацькоўскія правы на двух сыноў

МАЛАДЗЕЧНА

**Рашэннем суда Маладзечанскага раёна задаволілі позву бацькі непаўнагадовых дзяцей у адрас іх маці. Мужчына судзіўся, каб пазбавіць жанчыну бацькоўскіх правоў.**

Мужчына і жанчына ў той час жылі ў Мінску. Яны не рэгістравалі шлюб, а ў 2004 і 2009 гадах у іх нарадзіліся сыны.

У 2010 годзе маці хлопчыкаў затрымалі па падазрэнні ў злачынстве. Таму каб дзеці маглі застацца з біялагічным бацькам і каб на іх выплачвалі дапамогу, мужчыну спатрэбілася ўстанавіць бацькоўства.

З гэтага часу выхаваннем хлопчыкаў займаўся толькі бацька. Спачатку не ўсё было гладка. Наймалі жыллё, мужчына часам выпіваў, нярэдка не хапала грошай. Аднак ён стараўся забяспечыць дзяцей неабходным. Хлопчыкі хадзілі ў садок, а пасля ў школу.

У 2016 годзе сям'я пераехала ў Маладзечна. Бацька ўладкаваўся на працу, якая дазваляла забяспечваць сям'ю, характарызавалі яго выключна станоўча. З цягам часу перастаў выпіваць.

Маці вызвалілі з месцаў пазбаўлення свабоды ў 2013 годзе. Жанчына працягвала жыць у Мінску. Бацька дзяцей спрабаваў наладзіць адносіны паміж маці і сынамі. Вазіў дзяцей да маці, спрабаваў аднавіць паміж імі сувязь. Жанчына не выказвала жадання сустракацца з хлопчыкамі, жыць з сям'ёй і выхоўваць іх таксама не збіралася. Яна была занятая тым, што ўладкоўвала асабістае жыццё.

Неўзабаве жанчыну зноў асудзілі і накіравалі ў месцы пазбаўлення волі. Вызвалілі ў 2015 годзе. З таго часу жыццём, здароўем і поспехамі дзяцей цікавілася надзвычай рэдка і фармальна. Грашыма сям'і не дапамагала, а бацька дзяцей па аліментні не звяртаўся. Толькі аднойчы прапанаваў маці добраахвотна сплачваць 150-200 рублёў на месяц, тая адмовілася. Сёлета жанчына нарадзіла дзіця ад іншага мужчыны.

На судовым пасяджэнні яна не пагадзілася з патрабаваннем пазбавіць яе бацькоўскіх правоў. Суд даў магчымасць даказаць пазіцыю і патлумачыць, чаму яна не цікавілася жыццём сыноў гадамі. Адказаць ёй не было чаго. Суд высветліў, што жанчына ні разу не была з дзецьмі на лінейцы 1 верасня, не ведае іх сяброў, педагогаў, зацікаўленасцяў, праблем. Дзеці жанчыну таксама не ведаюць, малодшы сын нават не памятае.

Нават у калідоры суда перад пасяджэннем, маючы, магчымасць, апошнюю магчымасць падысці да дзяцей, абняць, паразмаўляць, штосьці патлумачыць, жанчына гэтага не зрабіла.

Падчас суда жанчыну асабліва турбавала, што бацька не аддае ёй дакументы аб нараджэнні сыноў, а без іх яна не можа аформіць неабходныя дакументы на атрыманне льгот як шматдзетная маці і мацярынскі капітал.

Жанчына не абскарджвала рашэнне суда аб пазбаўленні бацькоўскіх правоў.

**Аліна УТКІНА,**
**старшы памочнік пракурора Маладзечанскага раёна.**

## Выратавальнікі даставалі руку хлопчыка з батарэі

ВІЛЕЙКА

Пра здарэнне расказала афіцыйны прадстаўнік Мінскага абласнога ўпраўлення МНС **Анастасія Швайбовіч**.

– Да выратавальнікаў віляйчанка звярнулася 21 снежня вечарам, каля пяці гадзін. Паведаміла, што ў дзіцяці ў батарэі захрасла рука. Спецыялісты прыехалі і дапамаглі хлопчыку. Спецыяльнага абсталявання для гэтага не спатрэбілася, – паведаміла афіцыйны прадстаўнік.

У медыцынскай дапамозе хлопчык не меў патрэбы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У лабавым сутыкненні загінулі двое 21-гадовых

ВАЛОЖЫН

ДТЗ здарылася 18 снежня каля гадзіны дня на аўтадарозе М7 (Мінск – Ашмяны – мяжа Літвы).

Кіроўца «Форда» паспрабаваў абагнаць грузавік, але пачаў тармазіць, каб вярнуцца ў сваю паласу, бо насустрач ехаў «Фольксваген».

**Падчас манеўру «Форд» занесла, таму пазбегнуць сутыкнення не ўдалося.**

У выніку аварыі 21-гадовая дзяўчына-пасажыр «Форда» загінула на месцы, а кіроўца (такога ж узросту) памёр у бальніцы. Кіроўца і пасажырка з «Фольксвагена» дастаўлены ў бальніцу.

**Паводле МУС.**

# Калі бачыце прыгожую карцінку, фатаграфуйце

## Маладзечанка правяла трэнінг для падлеткаў па фотаздымцы на мабільнік

МАЛАДЗЕЧНА

**Як лепш пазіраваць? Чаму фотаздымкі з танцамі пад музыку атрымліваюцца горшымі па якасці, але больш настраёвымі? Як трэба апранацца, калі фатаграфуеш вечарам у вёсцы?**

Днямі ў санаторнай школе-інтэрнаце ў Маладзечне правялі трэнінг «Сацыяльная фатаграфія» па фотаздымцы на мабільны тэлефон. Сваімі сакрэтамі з падлеткамі падзялілася маладзечанка, актывістка, сябра арганізацыі Next Stop – New Life, фатограф **Арына Тархан**.

Па словах Арыны, гэта не першы трэнінг, дзе яна, 17-гадовая дзяўчына, выступае як выкладчык. Даўно ўжо не хвалюецца пры правядзенні, ды і пазаштатных сітуацый не ўзнікае. Хіба што прэзентацыя не запусціцца з першага разу.

Сёлета дзяўчына паўдзельнічала ў школе плюралізму, дзе навучаюць трэнераў, і вырашыла прымяніць набытыя там уменні на трэнінгу з падлеткамі – вучнямі школы-інтэрната.

На трэнінгу Арыны ўдзельнікі гутарылі пра мабільную фатаграфію – яе асновы, правілы. Дзяліліся досведам фотаздымкі.

– Калі пачынала трэнінг, пачала гаварыць па падрыхтаваным тэксце, але ўбачыла, што дзеці напружаныя, а мне так хацелася іх усмешак. Тады цалкам адключылася ад плана, пачала шмат расказваць з уласнага досведу, прыгадваць смешныя гісторыі, – падзялілася Арына.

Прызналася, што сама да фотаздымкі прыйшла не выпадкова:

– Я нарадзілася ў сям'і, дзе бацька і цётка – фатографы, а мама здымае відэа. Ад 11 год бацька пачаў тлумачыць мне асновы, дапамагаць з практыкай. Пасля вучылася на курсах фатографаў. Курсы далі шмат практыкі.



Фота забяспечанае Ірынай ТАРХАН.

Падчас трэнінгу Арына расказала падлеткам гісторыі з уласнага досведу.

### Парада па фотаздымцы ад Арыны Тархан

Якую параду даць тым, хто любіць фатаграфаваць? Не бойцеся спрабаваць. Заўсёды, калі бачыце прыгожую карцінку з цікавым ракурсам, прыгожым святлом, адключыцеся ад свету і сфатаграфуйце.

Я лічу, што наша фотагалерэя ў мабільным тэлефоне – гэта асабісты дзённік. Нярэдка я магу зайсці ў сваю галерэю, паглядзець на любы фотаздымак і прыгадаць цэлы дзень, звязаны з ім. Таму ніколі не бойцеся фатаграфаваць. І не думайце пра тое, што гэту фотку вы будзеце кудысьці выкладаць. Фатаграфуйце для сябе.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Раскрываем сакрэт, хто дапаможа навесці прыгажосць ад пятак да макушкі




# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце* Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

МАЛАДЗЕЧНА — Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ — вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ — вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН — вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА — вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03;** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ — вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **5-52-66, 5-57-65.**
СМАРГОНЬ — вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Дыскі жалезныя R14 (4х108), 4 шт., стаялі на Ford, нядорага. Т. (8-033) 366-81-81.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўто ў любым стане. Дорага. Т. (8-044) 5733095.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Рухавікі Д-240, ЗМЗ-53, А-01 у любым стане, запчасткі да іх. Т. (8-029) 6663675.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў цэнтры г. Смаргонь. Т. (8-044) 7626113.

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

### КУПЛЮ

• Гараж у ГБК-2. Вілейка. Т. (8-029) 2375721.*

### ЗДАМ

• У арэнду нежылое памяшканне плошчай 155,3 кв. м па адрасе: г. Маладзечна, вул. Я. Купалы,110. Т. (8-029) 6195512.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ



• «Дах пад ключ». Металачарапіца, прафнасціл (ад 8,5 руб./кв.м), піламатэрыялы. Замер. Растэрміноўка. Дастаўка. Мантаж. ІП Аноп С.М. УНП 190945853 Т. (8-029) 6668710, (8-033) 6333151.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Паслугі сантэхніка. Ацяпленне. Водазабеспячэнне. Усе віды работ. ІП Трубач С.А. УНП 692250027. Т. (8-029) 7018908.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт, устаноўка, наладка газавага абсталявання 4-га пакалення на ваш аўтамабіль. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

• Свідраванне адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 9085343.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• Блокі газасілікатныя з дастаўкай і выгрузкай. Можна ў растэрміноўку да 36 месяцаў. ІП Кірык Е.А. УНП 591819465 Т. (8-044) 7516244.*

• Вагонка, вольха, сасна. ПП «Маркціна Білд» УНП 690627804 Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

**Бытавая тэхніка**

• Халадзільнік «Атлант», маразільнік, тэлевізар, пральная машына, усё б/у. Т. (8-029) 7755336.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Музінструмент**

• Гітара. Т. (8-029) 5019550.*



**Жывёла, птушка, пчолы**

• Свінні белыя і в'етнамскія на мяса. Парасята в'етнамскія. Т. (8-025) 7894666.*

**Іншае**

• Кенгуру для пераноскі дзяцей (7 руб.), вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Сена ў цюках. Дастаўка. Т. (8-025) 7894666.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

• Біблію на польскай мове. Т. (8-029) 5019550.*

• Дамашняе малако. Многа. Т. (8-029) 6162240.*

### АДДАМ

• Аддам дарма тумбу з люстэркам (трэльяж) карычневага колеру, паліраваная, б/у. Т. (8-029) 6458473.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Вадзіцель з машынай і маніпулятарам на пастаянную работу (перавозка блокаў ГС). Т (8-044) 7516244 Вэлком.

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Абшыўка балконаў (ПВХ, вагонка, МДФ) унутры і звонку. Т. (8-029) 7080220.*

• Шукаю работу. (8-029)5019550.*



Фота Настасі УТКІНАЙ.

Працаваць у асабістым кабінеце плацельшчыка цяпер стала яшчэ зручней.

# Новыя магчымасці ў асабістым кабінеце плацельшчыка

**Больш за восем тысяч плацельшчыкаў – фізічных асоб Маладзечанскага раёна – мае магчымасць доступу да асабістага кабінета плацельшчыка. У параўнанні з мінулым годам колькасць карыстальнікаў павялічылася больш чым на адну тысячу чалавек.**

Электронны сэрвіс найбольш запатрабаваны сярод фізічных асоб – плацельшчыкаў падаходнага падатку, зямельнага падатку, падатку на нерухомасць, адзінага падатку з індывідуальных прадпрымальнікаў і іншых фізічных асоб, што ажыццяўляюць віды дзейнасці, якія не адносяцца да прадпрымальніцкай і не патрабуюць дзяржаўнай рэгістрацыі ў якасці індывідуальнага прадпрымальніка.

Ад кастрычніка 2020 года ў асабістым кабінеце плацельшчыка даступная дапрацаваная версія падачы электроннага апавяшчэння.

**Цяпер фізічнай асобе за кожны месяц, у якім будзе ажыццяўляць дзейнасць, неабходна падаваць асобнае апавяшчэнне.**

Выканаць гэта можна на базе ўжо адпраўленага апавяшчэння за папярэдні месяц, выкарыстоўваючы прыкметы: «Падаць апавяшчэнне з выкарыстаннем паказчыкаў папярэдняга апавяшчэння з магчымасцю карэкціроўкі». У новай версіі апавяшчэння дапрацаваны ўвод нумара месяца, у якой ажыццяўляецца дзейнасць.

Для скарачэння плацельшчыкамі памылак пры выпадку ўказання віду дзейнасці «Даванне фізічнай асобе, іншым фізічным асобам жылых памяшканняў, садовых домікаў, лецішчаў для кароткатэрміновага пражывання, якія належаць на праве ўласнасці», пры ўводзе інвентарнага нумара нерухомай маёмасці (кватэра, жылы дом, садовы домік, лецішча) на падставе пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі ці іншага дакумента, які змяшчае такія звесткі, дадалі «Пошук інвентарнага нумара па адрасе капітальнага будаўніцтва».

Дапрацавалі магчымасць уносіць змяненні і (або) дапаўненні ў апавяшчэнне пры ўмове ўказання прычыны ўнясення змяненняў і (або) дапаўненняў, напрыклад:

– у сувязі са змяненнем віду дзейнасці, віду тавараў, формы аказання паслуг;

– у сувязі са зменай перыяду дзейнасці;

– у сувязі са зменай месца дзейнасці;

– у сувязі з надыходам часовай непрацаздольнасці;

– іншыя.

Азнаёміцца з магчымасцямі інтэрнэт-сэрвісу «Асабісты кабінет плацельшчыка» можна на сайце МПЗ nalog.gov.by/ru/lichnii-kabinet-fl/.

**Паводле Інспекцыі МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

# Для плацельшчыкаў рамеснага збору і збору за аграэкатурызм. Як іх выплаціць

**Звяртаем вашу ўвагу, што набліжаецца 28 снежня. Гэта дзень, не пазней за які ў адпаведнасці з заканадаўствам у 2020 годзе вы павінны выплаціць у бюджэт збор за рамесную дзейнасць і збор за ажыццяўленне дзейнасці ў сферы аграэкатурызму за 2021 год.**

Выплаціць суму збору можна ўжо цяпер, для гэтага вам неабходна: даведацца ваш уліковы нумар плацельшчыка (УНП), ён паказаны ў кнізе ўліку праверак. Альбо неабходна ўвесці ваш ідэнтыфікацыйны нумар ці імя і прозвішча па спасылцы: portal.nalog.gov.by/grp/#!fl.

Скарыстайцеся паслугай інтэрнэт-банкінга па наступным шляху:

– пры аплаце збору за ажыццяўленне рамеснай дзейнасці – Плацяжы АРІП – Падаткі – Мінская вобласць – Маладзечанскі раён – Маладзечанскі РВК, фінупраўленне – Збор за рамесную дзейнасць – увядзіце ваш уліковы нумар (УНП) (уводзіцца вялікімі лацінскімі літарамі) – аплаціце адну базавую велічыню (цяпер 1 БВ – 27 рублёў);

– пры аплаце збору за ажыццяўленне дзейнасці ў сферы аграэкатурызму – Плацяжы АРІП – Падаткі – Мінская вобласць – Раён – Сельскі/Пасялковы савет – Збор за аграэкатурызм – увядзіце ваш уліковы нумар (УНП) (уводзіцца вялікімі лацінскімі літарамі) – аплаціце 1 базавую велічыню.

Аплаціць збор можна любым іншым зручным для плацельшчыка спосабам, у тым ліку праз аддзяленні банкаў і паштовыя аддзяленні. Звяртаем увагу, што аплата збору залежыць ад памеру базавай велічыні, якая дзейнічае на дату выплаты збору.

**Паводле Інспекцыі МПЗ па Маладзечанскім раёне.**

# Начальнік Маладзечанскага РАУС трапіў у санкцыйны спіс Еўрасаюза

**17 снежня Рада Еўрасаюза зацвердзіла новы, трэці, пакет санкцый адносна Беларусі. Пад іх трапілі 29 фізічных і 7 юрыдычных асоб.**



Вадзім Прыгара падчас разгону мірнай акцыі на маладзечанскай плошчы 10 жніўня.

### Раней Прыгара з'явіўся ў санкцыйных спісах Прыбалтыкі

Рашэнне аб увядзенні трэцяга пакета санкцый апублікавалі ў афіцыйным часопісе ЕС у той жа дзень. З таго моманту яно ўступіла ў сілу. Аб гэтым паведаміў карэспандэнт «Радыё Свабода» ў Брусэлі **Рыкард Юзвяк**.

У спісе знаходзіцца чалавек з імем **Вадзім Прыгара**. Так завуць начальніка Маладзечанскага РАУС. Раней гэта імя фігуравала ў санкцыйных спісах Латвіі, Літвы і Эстоніі. Прычынай уключэння гэтага чалавека ў санкцыйныя спісы было прыкрыццё фальсіфікацый прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі і сілавыя разгоны мірных дэманстрацый пасля выбараў.

«Еўрарадыё» і «Радыё Свабода» пацвердзілі, што гэты чалавек – начальнік Маладзечанскага РАУС.

### Хто яшчэ трапіў у санкцыйны спіс Еўрасаюза

Юрыдычныя асобы, якія трапілі ў спіс, – гэта пераважна кампаніі ваеннай прамысловасці: 140-ы рамонтны завод (рамонт і мадэрнізацыя бранятанкавай тэхнікі і ўзбраення), «Агат» (працуе на патрэбу Мінабароны, радыётэхнічныя прылады), Dana Holdings (сербская фірма забудоўшчыкаў Мінска), «Сінэзіс» (займаюцца сістэмай распазнавання твараў), МЗКЦ (завод вытворчасці колавых цягачоў), «Белтэхэкспарт» (буйны пастаўшчык зброі) і Упраўленне справамі прэзідэнта.

У санкцыйным спісе Еўрасаюза сярод фізічных асоб ёсць старшыня Савета Рэспублікі **Наталля Качанава**, кіраўнік Белтэлерадыёкампаніі **Іван Эйсмант**, генеральны пракурор **Андрэй Швед**, міністр інфармацыі **Ігар Луцкі** і іншыя чыноўнікі і прадстаўнікі сілавых структур. Адзначым, што Вадзім Прыгара з'яўляецца адзіным начальнікам раённых аддзелаў унутраных спраў у санкцыйным спісе.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**



## Пяскова паставілі на прафілактычны ўлік у калоніі

Пяскоў падчас судовага пасяджэння.

**Валанцёрская служба незарэгістраванага праваабарончага цэнтра «Вясна» паведаміла, што Паўла Пяскова паставілі на прафілактычны ўлік у калоніі.**

Валанцёрская служба паведаміла, што Паўла Пяскова паставілі на прафілактычны ўлік як асобу, схільную да экстрэмізму і дэструктыўных дзеянняў. Як піша служба «Вясны», гэта азначае ўзмоцнены кантроль з боку адміністрацыі калоніі і некаторыя абмежаванні падчас адбыцця тэрміну ў выпраўленчай калоніі.

Нагадаем, Паўла Пяскова асудзілі на 3,3 года за супраціўленне амапаўцу падчас ланцуга салідарнасці ў Маладзечне 19 чэрвеня. Па гэтай жа справе праходзіў **Уладзіслаў Еўсцігнееў** – яму далі тры гады зняволення.

Пасля вынясення прысуду Пяскова этапавалі ў жодзінскую турму. Там ён знаходзіўся да апеляцыі ў Мінскі абласны суд – апеляцыю адхілілі. Затым Паўла этапавалі ў бабруйскую выпраўленчую калонію, дзе ён адбывае тэрмін.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## Маладзечанца абвінавачваюць у абразе службовай асобы

Супрацоўнікі ГУБАЗіК затрымалі 18-гадовага маладзечанца, які быў адміністратарам тэлеграм-канала «Карнікі Маладзечна». Аб гэтым паведаміла прэс-служба МУС Беларусі.

– Хлопец не толькі размяшчаў у чатах персанальныя дадзеныя супрацоўнікаў праваахоўных органаў, але і агітаваў за ўдзел у масавых беспарадках на тэрыторыі Мінскай вобласці, – сказана ў паведамленні МУС.

Следчыя ўзбудзілі крымінальную справу за паклёп. Пацярпелы – кіраўнік аднаго са следчых падраздзяленняў Міншчыны.

Па інфармацыі «Рэгіянальнай газеты», затрыманы – **Аляксей Крэнць**. Яго затрымалі ўначы 15 снежня. А 18 снежня яму прад'явілі абвінавачанне па артыкуле 369 Крымінальнага кодэкса «Абраза прадстаўніка ўлады». Санкцыя артыкула – грамадскія працы альбо штраф, альбо выпраўленчыя працы на тэрмін да двух год, альбо арышт ці абмежаванне волі на тэрмін да трох год.

Цяпер маладзечанец знаходзіцца на волі пад падпіскай аб нявыездзе і належным паводзінах звестак.

Крэнца затрымлівалі яшчэ ў жніўні па адміністрацыйных артыкулах. Ён сядзеў у ізалятары і атрымаў штраф за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве і расклейку лістовак па Маладзечне з артыкулам 33 Канстытуцыі Беларусі.

**Настасся УТКІНА.**

## У Маладзечне затрымалі праваабаронцу, калі ён раздаваў Дэкларацыю правоў чалавека. А потым аглядалі жыллё

Праваабаронцу незарэгістраванага праваабарончага цэнтра «Вясна» **Алеся Капуцкага** затрымалі, калі ён раздаваў Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека.

Капуцкага затрымалі 10 снежня каля 17 гадзін ля ГЦ «Модуль» у Маладзечне. Да яго пад'ехала міліцэйская газэлька, затрымлівалі двое супрацоўнікаў Маладзечанскага РАУС **Філістовіч** і **Бурачонак**.

Па словах Капуцкага, міліцыянеры «дакалупаліся» да брашуркі – Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Праваабаронца раздаваў іх каля «Модуля», таму што 10 снежня адзначаецца Міжнародны дзень правоў чалавека.

У аддзеле ўнутраных спраў Капуцкі правёў некалькі гадзін. Там міліцыянер **Яўген Кеўра** склаў пратакол канфіскацыі 35-ці асобнікаў Дэкларацыі правоў чалавека, а таксама склаў пратакол апытання.

– Адміністрацыйны пратакол пакуль не складалі. Сказалі, што выклічуць, – расказаў Капуцкі.

17 снежня ў праваабаронцы Алеся Капуцкага аглядалі жыллё. Пастанову на агляд санкцыянаваў маладзечанскі пракурор **Уладзімір Дубоўскі**. У пастанове напісана, што 10 снежня Капуцкі распаўсюджваў друкаваную прадукцыю ў парушэнні дзейнага заканадаўства. Аднак не пазначылі, які закон і артыкул парушыў праваабаронца.

Там жа пазначана, што «ёсць дастатковыя падставы меркаваць, што ў жыллі Алеся Капуцкага можа знаходзіцца незаконна выробленая друкаваная прадукцыя, іншыя прадметы або дакументы, за захоўванне і распаўсюджванне якіх прадугледжаная адказнасць».

Пад пастановай таксама ёсць подпіс намесніка начальніка аддзела аховы правапарадку **Дзмітрыя Ярашэвіча**. Пастанову зацвердзіў начальнік РАУС **Вадзім Прыгара**.

**Настасся УТКІНА.**

● ЗОРКА ТЭЛЕТЫДНЯ



Фота kommersant.ru

# Канцямір Балагаў

**Расійскі кінарэжысёр, сцэнарыст і аператар.**

### Біяграфія

Нарадзіўся 28 ліпеня 1991 года ў Нальчыку. Бацька – прадпрымальнік, маці – настаўніца хіміі і біялогіі.

З дзяцінства любіў глядзець кіно. У 18-19 год сам пачаў здымаць невялічкія ролікі, затым разам з сябрамі зняў інтэрнэт-серыял. У пошуках самарэалізацыі напісаў ліст рэжысёру **Аляксандру Сакураву**, які кіраваў творчай майстэрняй у Кабардзіна-Балкарскім універсітэце.

Балагаў – пра ўплыў Сакурава на яго:

– Ён паглядзеў інтэрнэт-серыял і прапанаваў у яго вучыцца, прыйсці адразу на трэці курс. За два гады навучання ён мяне цалкам змяніў. Змяніў мяне як асобу, змяніў мае кінематаграфічныя прыхільнасці, прышчапіў мне любоў да літаратуры. Да майстэрні я практычна нічога не чытаў, што вельмі сумна для маладога чалавека, але на Паўночным Каўказе гэта нармальна. Я не хачу сказаць, што там усе неадукаваныя, але большасць усё-ткі мала чытае кнігі, не ведае, хто такі Платонаў.

**Балагава залічылі адразу на трэці курс, ён паспяхова завяршыў навучанне. З Нальчыка пераехаў у Санкт-Пецярбург, а затым перабраўся ў Маскву.**

### Праца ў кінаіндустрыі

Падчас вучобы зняў некалькі мастацкіх і дакументальных фільмаў. Першы кароткаметражны выйшаў у 2014 годзе. Некаторыя кароткаметражкі Балагава паказалі на 67-м кінафестывалі ў Лакарне. У 2016 годзе выступіў як адзін са сцэнарыстаў да фільма «Софічка» сваёй аднакурсніцы **Кіры Каваленкі**.

У 2017 годзе дэбютаваў у якасці рэжысёра з поўнаметражным фільмам «Цясніна» на 70-м Канскім фестывалі, дзе атрымаў прыз ад Міжнароднай арганізацыі кінакрытыкаў і кіназнаўцаў. У гэтым жа годзе атрымаў прэмію GQ Russia ў катэгорыі «Адкрыццё года».

У 2019 годзе на 72-м Канскім кінафестывалі Балагаў са сваім фільмам «Дылда» зноў атрымаў прыз ад Міжнароднай арганізацыі кінакрытыкаў і кіназнаўцаў, а таксама прыз за лепшую рэжысуру. У тым ліку фільм Балагава адправілі ад Расіі на прэмію «Оскар» у намінацыі «Лепшы фільм на замежнай мове» – у выніку фільм не намінавалі.

### Фільмы Балагава

**2013** – «Андруха». Балагаў выступіў у якасці рэжысёра, сцэнарыста і аператара.

**2013** – «Малады яшчэ» (рэжысёр, сцэнарыст і аператар).

**2014** – «Яна чакае». Балагаў толькі здымаў фільм.

**2014** – «Першы я». Зноў выступіў у трох ролях – рэжысёра, сцэнарыста і аператара.

**2016** – «Софічка». Балагаў напісаў сцэнарый для фільма.

**2017** – «Цясніна». Напісаў сцэнарый і знаходзіўся на здымках у якасці рэжысёра.

**2019** – «Дылда». Балагаў пісаў сцэнарый, быў рэжысёрам.

Падрыхтавала
**Настасся УТКІНА.**



## 8 канал

ВОСЬМОЙ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 28 ДЕКАБРЯ

**7.00, 16.10, 17.20, 21.05, 1.15** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**7.30, 16.15, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«СВЕРХЪЕСТЕСТВЕННОЕ».**
**8.20** Х/ф **«ПОСЛЕДНЯЯ ГЛАВА».**
**11.30** Х/ф **«ИВАН ВАСИЛЬЕВИЧ МЕНЯЕТ ПРОФЕССИЮ».**
**13.10, 16.30** Т/с **«ДНЕВНИКИ ВАМПИРА».**
**14.00** Мультфильмы «Щелкунчик».
**14.25** Т/с **«НЕУКРОТИМЫЙ ПОВЕЛИТЕЛЬ».**
**16.20** «Мульт-парад». «Мороз Иванович».
**17.25** Х/ф **«ГРАВИТАЦИЯ».**
**19.15** «Суперлото».
**19.50** Т/с **«УДИВИТЕЛЬНЫЕ ИСТОРИИ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«СЛУЖЕБНЫЙ РОМАН».**
**23.45** Х/ф **«СЛУЖЕБНЫЙ РОМАН. НАШИ ДНИ».**

### ВТОРНИК, 29 ДЕКАБРЯ

**7.00, 21.05, 1.45** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «СкубиДу и угадай кто».
**7.30, 15.45, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЙ ПУТЬ».**
**9.10** Т/с **«УДИВИТЕЛЬНЫЕ ИСТОРИИ».**
**10.15** Мультфильмы «Гарфилд».
**11.40, 16.40** Т/с **«ДНЕВНИКИ ВАМПИРА».**
**12.30** Х/ф **«ЖЕСТОКИЙ РОМАНС».**
**14.50** Т/с **«НЕУКРОТИМЫЙ ПОВЕЛИТЕЛЬ».**
**15.40** Погода + «Эрана».
**16.50** «Мульт-парад». «Падал прошлогодний снег».
**16.10** «Дети о еде».
**17.25** «Погода». «Эрана».
**17.30** Х/ф **«МАЖОР».**
**19.15** Т/с **«ШЕРЛОК».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ЧУЖОЙ».**
**23.45** Х/ф **«ДЖУНГЛИ».**

### СРЕДА, 30 ДЕКАБРЯ

**7.00, 15.50, 17.40, 21.10, 2.00** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «СкубиДу и угадай кто».
**7.30, 15.55, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЙ ПУТЬ».**
**9.00** Т/с **«ШЕРЛОК».**
**10.30** «Дети о еде».
**11.00** «Мульт-парад».
**11.40, 16.50** Т/с **«ДНЕВНИКИ ВАМПИРА».**
**12.25** Х/ф **«ЧУЖОЙ».**
**15.00** Т/с **«НЕУКРОТИМЫЙ ПОВЕЛИТЕЛЬ».**
**16.00** «Мульт-парад». «Трое из Простоквашино».
**17.45** Х/ф **«НОВОГОДНИЙ АНГЕЛ».**
**19.30** «Бьюти День».
**20.00** Т/с **«УДИВИТЕЛЬНЫЕ ИСТОРИИ».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«АВАТАР».**
**0.15** Романтическая сказка «Зачарованная».

### ЧЕТВЕРГ, 31 ДЕКАБРЯ

**7.00, 15.25, 19.00, 21.25, 1.30** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**7.30, 21.10** «Приколы 13-й школы».
**7.35** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЙ ПУТЬ».**
**8.25** Т/с **«УДИВИТЕЛЬНЫЕ ИСТОРИИ».**
**9.10** Х/ф **«ЩЕЛКУНЧИК И ЧЕТЫРЕ КОРОЛЕВСТВА».**
**11.00** Т/с **«ДНЕВНИКИ ВАМПИРА».**
**11.50** Х/ф **«ВОКЗАЛ ДЛЯ ДВОИХ».**
**14.10** Х/ф **«КАРНАВАЛЬНАЯ НОЧЬ».**
**15.30** «Мульт-парад». «12 месяцев».
**16.20** Х/ф **«ЧАРОДЕИ».**
**18.50** «Фешн is my профешн».
**19.05** Т/с **«МЫ ИЗ РАЗНЫХ МИРОВ».**
**21.15** «Вечарніца».
**21.30** Х/ф **«ТИХООКЕАНСКИЙ РУБЕЖ».**

### ПЯТНИЦА, 1 ЯНВАРЯ

**7.00, 21.10** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Король лев».
**9.05, 20.50** «Приколы 13-й школы».
**9.10** Т/с **«ЗВЕЗДНЫЙ ПУТЬ».**
**10.10** Х/ф **«СЛЕДУЙ ЗОВУ СЕРДЦА».**
**13.20** Х/ф **«ЕЛКИ».**
**14.50** «Мульт-парад». «Простоквашино».
**16.20** Т/с **«ДНЕВНИКИ ВАМПИРА».**
**17.05** Х/ф **«ДЕД МОРОЗ И БИТВА МАГОВ».**
**19.10** «Погода».
**19.15** Т/с **«ШЕРЛОК».**
**20.55** «Вечарніца».
**21.15** Х/ф **«ЧУЖИЕ».**
**23.15** Х/ф **«ЗВЕЗДНЫЕ ВОЙНЫ».**
**1.40** «Погода»+ «Эрана».

### СУББОТА, 2 ЯНВАРЯ

**7.00, 19.00, 21.20, 1.40** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад».
**8.10** «Приколы 13-й школы».
**8.15** Х/ф **«ТИХООКЕАНСКИЙ РУБЕЖ».**
**10.30** «Дети о еде».
**11.00** Х/ф **«МЫ ИЗ РАЗНЫХ МИРОВ».**
**16.35** «Погода». «Эрана».
**16.40** «Смотрим всей семьей». «Тайна Коко».
**19.05** Х/ф **«ЛЕД».**
**21.05** «Вечарніца».
**21.10** «Фешн is my профешн».
**21.25** Х/ф **«АНГЕЛ-ХРАНИТЕЛЬ».**
**23.40** Х/ф **«МИССИЯ НЕВЫПОЛНИМА – 2».**

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 3 ЯНВАРЯ

**7.00, 12.35, 17.15, 18.55, 21.00, 0.20** «Погода» + «Эрана».
**7.05** «Мульт-парад». «Тайная жизнь домашних животных».
**8.30** «Приколы 13-й школы».
**8.35** Х/ф **«ПОЛЯРНЫЙ РЕЙС».**
**10.00** Х/ф **«МЫ ИЗ РАЗНЫХ МИРОВ».**
**12.40** «Смотрим всей семьей». «Алиса в стране чудес».
**14.30** «Мульт-парад».
**15.25** Х/ф **«ВРАГ МОЙ».**
**17.20** Т/с **«КОЛОМБО».**
**19.00** Х/ф **«ДЕТЕКТИВ ПИКАЧУ».**
**20.50** «Вечарніца».
**21.10** Х/ф **«ТАЙНЫ ЗЕЛЕНОЙ ТРАВЫ».**

## МКТВ

### ПОНЕДЕЛЬНИК, 28 ДЕКАБРЯ

**6.30** Х/ф **«ХОТТАБЫЧ».**
**7.30** Свет души.
**8.25** Х/ф **«100 МИЛЛИОНОВ ЕВРО».**
**10.00** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК».**
**11.30** Х/ф **«ИВАН ЦАРЕВИЧ И СЕРЫЙ ВОЛК 2».**
**13.00** Х/ф **«СИНДБАД. ПИРАТЫ СЕМИ ШТОРМОВ».**
**14.30** Х/ф **«РОЖДЕСТВО НА ДВОИХ».**
**16.00** Х/ф **«ШЕФ».**
**17.40** Квартал 21.
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**19.15** На вячоркі да Фядоркі. Калядьі.
**20.15** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ! УДАЧИ».**
**22.15** Мажорный лад.

### ВТОРНИК, 29 ДЕКАБРЯ

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**8.15** Х/ф **«МЭРИ ПОППИНС ВОЗВРАЩАЕТСЯ».**
**12.00** Х/ф **«СКУБИ-ДУ».**
**13.50** Х/ф **«КОРОЛЕВСТВО ПОЛНОЙ ЛУНЫ».**
**15.40** Х/ф **«РОЖДЕСТВЕНСКИЕ ХРОНИКИ».**
**17.50, 22.15** Мажорный лад.
**19.15** Рядом со звездами.
**20.15** Х/ф **«КЛАУС».**

### СРЕДА, 30 ДЕКАБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15, 22.15** Мажорный лад.
**8.15, 20.15** Мастерство и фантазия.
**10.00** Х/ф **«ВПЕРЕД».**
**13.00** Х/ф **«ИЛЬЯ МУРОМЕЦ И СОЛОВЕЙ РАЗБОЙНИК».**
**16.40** Х/ф **«ЛЮБОВЬ-МОРКОВЬ».**
**19.15** Мая Радзіма.
**20.30** Музыкальная открытка.

### ЧЕТВЕРГ, 31 ДЕКАБРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00** Новости: Время местное.
**7.30, 18.25** Мнения и факты.
**8.15** Х/ф **«КАК ПОЙМАТЬ ПЕРО ЖАР-ПТИЦЫ».**
**9.50** Х/ф **«КЛАУС».**
**12.15** Х/ф **«ЗАКОЛДОВАННАЯ ЭЛЛА».**
**13.45** Х/ф **«ДЖУНГЛИ ЗОВУТ. В ПОИСКАХ МАРСУПИЛАМ».**
**16.00** Х/ф **«ЖЕНЮСЬ НА ПЕРВОЙ ВСТРЕЧНОЙ».**
**19.00, 20.00, 22.00** Новости: время местное. Итоги.
**19.15, 22.15** Мажорный лад.
**20.30** Праздничная программа «Новогоднее кружево».

### ПЯТНИЦА, 1 ЯНВАРЯ

**6.30, 7.15** Песня на завтрак.
**7.00, 19.00, 20.00** Новости: время местное. Итоги.
**8.00** Новости: Время местное.
**8.15** Х/ф **«ГОЛЛИВУДСКИЕ КОПЫ».**
**9.50** Х/ф **«ДЖЕНТЛЬМЕНЫ УДАЧИ».**
**12.05** Х/ф **«SUPERНЯНЬ».**
**15.40** Х/ф **«БАБУШКА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ».**
**19.15, 22.15** Мажорный лад.
**20.15** Новогоднее кружево (повтор праздничной программы от 31.12.2020).
**22.00** Новости: время местное.

### СУББОТА, 2 ЯНВАРЯ

**6.30** Песня на завтрак.
**7.00, 8.00, 19.00, 20.00, 22.00** Новости: Время местное.
**7.15** Будьте здоровы.
**8.15** Х/ф **«11 ДРУЗЕЙ ОУШЕНА».**
**10.35** Х/ф **«ГОСТЬ В СТУДИИ».**
**11.55** Х/ф **«ТАКСИ 5».**
**13.25** Х/ф **«СУПЕРМОГЗГ».**
**15.50** Х/ф **«КЛАУС».**
**18.50** Афиша.
**19.15, 22.15** Мажорный лад.
**20.30** Музыкальная открытка.

### ВОСКРЕСЕНЬЕ, 3 ЯНВАРЯ

**6.30** Х/ф **«ТАКСИ».**
**8.00** Х/ф **«СУПЕРМОЗГ».**
**10.00** Х/ф **«АНАЛИЗИРУЙ ЭТО».**
**11.50** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ».**
**13.20** Х/ф **«ПОДАРОК С ХАРАКТЕРОМ».**
**15.00** Х/ф **«РОЖДЕСТВО НА ДВОИХ».**
**16.35** Х/ф **«ТАКСИ 5».**
**18.25** Х/ф **«МОНАШКИ В БЕГАХ».**
**19.35** Х/ф **«ВСЁ О МУЖЧИНАХ».**
**21.35** Х/ф **«ПРИВЕТ, БИЛЛ!».**

## Беларусь 1

**6.50** Х/ф **«ЁЛКА НА МИЛЛИОН».**

**8.30** Смысл жизни.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.10, 16.15** Один день.

**10.35, 12.10** Х/ф **«ПРОСТО РОМАН».**

**14.25** Маршрут построен.

**15.15** Дай пять.

**15.30** Вокруг планеты.

**16.50** Х/ф **«УСПЕТЬ ВСЁ ИСПРАВИТЬ».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.05** Х/ф **«ДЕДА МОРОЗА НЕ БЫВАЕТ».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.50** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**9.45** Х/ф **«ПРИКЛЮЧЕНИЯ ТИНТИНА: ТАЙНА ЕДИНОРОГА».**

**11.25** «Мир наизнанку. Бразилия». Познавательное трэвел-шоу.

**12.15** Х/ф **«ОДИН ДОМА 3».**

**13.55** Х/ф **«СКАЗКИ НА НОЧЬ».**

**15.35** «Папа попал». Реалити-шоу.

**17.15** «Меняю жену». Реалити-шоу.

**18.55** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**20.20** «Орел и Решка. Морской сезон». Трэвел-шоу.

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**21.20** Х/ф **«ЗИМНЯЯ СКАЗКА, ИЛИ КОРОЛЕВА, ПОТЕРЯВШАЯ ИМЯ».**

**23.00** «Третий лишний». Реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Святыні Беларусі».

**8.00, 13.10** Навіны культуры.

**8.20** «Мойдодыр». Мультфільм.

**8.35** «Сірата казанская». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Мачанка.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Варвара-краса, Доўгая каса». Мастацкі фільм.

**13.30** «Прышэльцы-2: Калідоры часу». Мастацкі фільм.

**15.25** «Легенды кіно». Рына Зялёная.

**16.00** «Прыгоды Бураціна». Мастацкі фільм [СТ].

**18.20** Сустрэча з «Бясе-дай».

**19.15** «Паласатыя рэйс». Мастацкі фільм.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Прыгоды Шэрлака Холмса і доктара Ватсана». Шматсерыйны мастацкі фільм [СТ].

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** Х/ф **«МАРЬЯ-ИСКУСНИЦА».**

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** ОНТ представляет: «Народный повар».

**10.40** Х/ф **«МОРОЗКО».**

**12.05** «Первый скорый».

**13.35** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.

**14.35** «Ледниковый период».

**16.20** «Ледниковый период». Продолжение.

**18.20** ОНТ представляет: «Удача в придачу! с «Евроопт».

**19.05** «Лучше всех!». Новогодний выпуск.

**20.00** «Контуры».

**21.20** «Что? Где? Когда?». Финал года.

**22.55** «Три аккорда». Новогодний выпуск.

## СТВ

**6.20** «СУПЕРТЕЩА ДЛЯ НЕУДАЧНИКА». Россия, 2003г.

**8.00, 0.40** «Легенды СССР».

**10.30** «Добро пожаловать-ся».

**11.00** «Большой город».

**11.35, 13.40, 16.40** Т/с **«МАЙОР И МАГИЯ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**18.00** «ЁЛКИ-5». Россия, 2013г.

**19.30** «Неделя».

**22.05** Документальный спецпроект.

**23.35** «Неголубой огонек-2». Избранное.

## Мир

**5.00** Мультфильмы.

**5.55** Х/ф **«КАМЕННЫЙ ЦВЕТОК».**

**7.30** Х/ф **«САДКО».**

**9.20** Х/ф **«СКАЗКА О ПОТЕРЯННОМ ВРЕМЕНИ».**

**11.05** Х/ф **«СТАРИКИ-РАЗБОЙНИКИ».**

**13.00** Х/ф **«ЖАНДАРМ ИЗ СЕН-ТРОПЕ».**

**15.05** Т/с **«ТРИ ПОЛУГРАЦИИ».**

**19.00** Новости.

**19.15** Х/ф **«ЖЕСТОКИЙ РОМАНС».**

**22.35** Х/ф **«ТАНЦОР ДИСКО».**

**1.20** Х/ф **«НОЧЬ ОДИНОКОГО ФИЛИНА».**

**2.50** Х/ф **«ОБЫКНОВЕННОЕ ЧУДО».**

## НТВ-Беларусь

**6.05** «Астропрогноз».

**6.10** Элементариум.

**6.35** Беларусы.

**7.05** «50 рецептов первого».

**7.30** Terra incognita. Беларусь неизвестная.

**8.00, 10.00, 16.00, 19.00** «Сегодня».

**8.20** За гранью.

**8.30** «24 вопроса».

**9.00** «Города Беларуси».

**9.30** «Врачебные тайны плюс».

**10.20** «Квартирный вопрос. by».

**10.45** «Первая передача».

**11.10** «Чудо техники».

**11.50** «Дачный ответ».

**12.45** «Поедем, поедим!».

**13.30** «НашПотребНадзор».

**14.20** Х/ф **«ГАРАЖНЫЙ ПАПА».**

**16.20** «Следствие вели…».

**17.40** «Новые русские сенсации».

**18.30, 19.25** Т/с **«ПЁС».**

**20.45** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

**21.15** «Основано на реальных событиях».

**23.50** «Квартирник НТВ у Маргулиса». Полина Гагарина.

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** Х/ф **«РАЗВОДА НЕ БУДЕТ».**

**9.00** Х/ф **«ЗОЛОТАЯ НЕВЕСТА».**

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.10** «СДЕЛАНО». Документальный проект.

**11.45** ПРЕМЬЕРА. «Смотреть до конца».

**12.45** Х/ф **«ТЕОРИЯ НЕВЕРОЯТНОСТИ».**

**16.10** Анна Ковальчук в детективном телесериале «Тайны следствия-18».

**21.05** «В людях».

**21.45** Т/с **«АННА КАРЕНИНА».**

## кіно і спорт

### TV1000

**5.00, 1.30** Охотники за привидениями. **6.45, 3.10** Охотники за привидениями 2. **8.35** День сурка. **10.25** Парк Юрского периода. **12.35** Парк Юрского периода 2: Затерянный мир. **14.50** Парк Юрского периода 3. **16.25** Искусственный разум. **19.00** Особое мнение. **21.30** Вспомнить всё. **23.35** Меняющие реальность.

### TV1000 ACTION

**5.40** Возмездие. **7.55** Прогулка среди могил. **10.05** Миссия невыполнима: Протокол Фантом. **12.20** Миссия невыполнима: Племя изгоев. **14.35** Миссия невыполнима: Последствия. **17.10** Рейд. **19.00** Рейд 2. **21.40** Вне/себя. **23.40** Погребённый заживо. **1.20** Три девятки. **3.10** Мальчики-налётчики.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.30** Легенда №17. **8.00** Экипаж. **10.25** Эластико. **11.55** Алёша Попович и Тугарин Змей. **13.15** Добрыня Никитич и Змей Горыныч. **14.25** Илья Муромец и Соловей-Разбойник. **15.50** Три богатыря и Шамаханская царица. **17.10** Джентльмены, удачи! **19.00** Один вдох. **20.45** Жги! **22.35** Ласковый май. **0.40** Ёлки новые. **2.15** Ёлки последние. **4.05** Отрыв.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **10.00, 10.30, 11.00, 11.30, 12.00, 12.30, 13.00, 13.30, 14.00, 14.30, 15.00, 15.30, 16.00, 16.30, 17.00, 17.30, 18.00, 18.30, 19.00, 19.30, 20.00, 20.30, 21.00, 21.30, 22.00, 22.30** Скрипт-реалити «Гадалка». **23.00, 0.00** Т/с **«КУКЛЫ КОЛДУНА». 1.00, 2.00, 2.45** «Новогодние чудеса». **3.30, 4.15, 5.15** «13 знаков зодиака».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 20.00, 21.00, 22.00, 23.00** Т/с **«РОДИТЕЛЬСКОЕ ПРАВО». 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Т/с **«АГЕНТСТВО НЛС». 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 4.00, 5.00, 6.00, 7.00** Т/с **«ПОЗДНИЙ СРОК».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.35** Х/ф **«КРУТАЯ ДЖОРДЖИЯ». 2.30** Х/ф **«ЗАЧИНЩИКИ». 4.10** Х/ф **«ШЕФ». 5.40** Х/ф **«СЛУЧАЙНЫЙ ШПИОН». 7.15** Х/ф **«САМЫЙ ЛУЧШИЙ ДЕНЬ». 9.10** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ». 11.00** Х/ф **«ВАСАБИ». 12.40** Х/ф **«ШПИОН ПО СОСЕДСТВУ». 14.20** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ». 16.00** Х/ф **«СУПЕРБОБРОВЫ: НАРОДНЫЕ МСТИТЕЛИ». 17.35** Х/ф **«ХОЛОП». 19.30** Х/ф **«ГОСПОЖА ГОРНИЧНАЯ». 21.20** Х/ф **«ЕСЛИ СВЕКРОВЬ – МОНСТР...». 23.05** Х/ф **«АСТЕРИКС И ОБЕЛИКС ПРОТИВ ЦЕЗАРЯ».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.40** Т/с **«ПАЛАЧ». 1.35, 2.25, 3.55, 4.40, 5.35, 6.25, 7.15, 8.05, 9.05, 9.55, 10.50, 11.40, 12.30, 13.25, 14.15, 15.05, 23.45** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 16.00, 16.55, 17.55, 18.50, 19.50, 20.50, 21.45, 22.45** Т/с **«ПАУК».**

### ВТВ

**6.05** «ЛОВИ МОМЕНТ». **7.35** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** Шоу «ГАЛИЛЕО». **11.00** Юмористическое шоу «ШОУ ВЫХОДНОГО ДНЯ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.35** Х/ф **«ПОЛЯРНЫЙ ЭКСПРЕСС». 14.15** Музыкальное шоу «НОВЫЙ ГОД, ДЕТИ И ВСЕ-ВСЕ-ВСЕ!». **17.05, 23.50** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **18.50** Приключения «ПРОГУЛКА». **21.00** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **22.00** Шоу «ДЕТКИ-ПРЕДКИ». **23.00** Скетч-шоу «ЗАЛ ОЖИДАНИЯ». **1.05** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **1.55** «ПРОСТО КУХНЯ». **2.45** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.15** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.30, 10.50, 12.50** Хоккей. Молодежный Чемпионат мира (U-20). Четвертьфинал. **8.50** Футбол. Чемпионат Англии. **14.50** Спорт-центр. **16.50** Овертайм. КХЛ. **17.10** Хоккей. КХЛ. Динамо-Минск – Авангард (Омск). В перерывах Овертайм. КХЛ. **19.30, 22.05** Футбол. Чемпионат Англии. В перерыве Спорт-центр. **21.30** Игры «на вырост».

### EUROSPORT

**0.30, 10.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Турне 4-х трамплинов. Инсбрук. HS 130. Квалификация. **1.00** Ралли-рейд. Дакар. **1.30** Олимпийские игры. Transform My Meal. **2.30** Олимпийские игры. «Вдохновленные спортом». **3.30** Велоспорт. Гент – Вевельгем. **5.00, 9.00** Снукер. Мировой Гран-при. Финал. **7.00** Велоспорт. Тур Фландрии. **11.35, 17.15, 20.50** Лыжные гонки. «Тур де Ски». Фаль Мюстайр. Женщины. Масс-старт. Классика. 10 км. **12.25** Лыжные гонки. «Тур де Ски». Фаль Мюстайр. Мужчины. Масс-старт. Классика. 15 км. **13.25, 20.00** Лыжные гонки. «Тур де Ски». Фаль Мюстайр. Мужчины. Пасьют. Свободный стиль. 15 км. **14.20, 22.50, 17.55, 23.15** Горные лыжи. Кубок мира. Загреб. Женщины. Слалом. **15.25, 19.00, 21.30** Прыжки на лыжах с трамплина. Турне 4-х трамплинов. Инсбрук. HS 130.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Хорошо забытое. **6.15** Металлоломщики. **7.00** Советы юриста. **7.45, 8.50** Сравнительный тест. **8.15** Теория полного привода. **9.20** Автолайф. **9.30** Вторичка. **9.50** Комплектация. **10.20** Все включено. **10.55, 19.30, 22.50** Легенды автопрома. **11.15, 19.50, 23.10, 3.05** Проверка на дороге. **11.35, 12.05, 12.45, 13.25, 14.00, 14.40, 15.15, 15.50, 16.30, 17.10, 17.45, 18.25, 2.45** Работяги. **11.50, 12.30, 13.10, 13.45, 14.20, 14.55, 15.35, 16.10, 16.50, 17.25, 18.10** Мир танков. **19.20** Обновление. **20.05, 23.30, 3.20** Стальные парни. **20.55** Аварийная ситуация. **21.15, 4.05** Поездка выходного дня. **21.45, 5.00** ИЗРАИЛЬ. Нам любые дороги дороги. **22.20** Автомобильные музеи мира. **0.20** Испытание на прочность. **1.20** Тест на «Драйве». **2.15** Сити-тестер. **5.30** Авто: вторые руки.

### EXPLORE

**6.00** Рыбалка со звездами. **6.30, 7.20, 8.15, 9.05, 10.00, 10.50** Речные чудовища. **11.45, 12.30, 13.20, 14.05, 14.55, 15.40, 16.30, 17.15, 18.00** Австралийские золотоискатели. **18.50** Операция «Золотая лихорадка». **19.45, 20.10, 20.30, 20.55, 21.20, 21.45, 22.10, 22.35, 23.00, 23.25, 23.50, 0.10, 0.35, 1.00** Нефритовая лихорадка. **1.25, 2.10, 2.55, 3.40, 4.25** Деревенский дом. **5.10** Виртуозы резьбы по дереву. **5.35** Охота на оленей.

### HISTORY

**6.00, 6.25, 6.55, 7.20** Даты, вошедшие в историю. **7.50, 8.40, 9.30** Запретная история. **10.20** Дикая Канада II. **11.15** Жизнь на вулкане. **12.15** Тайны египетских пирамид. **13.05** Загадки Египта. **13.55, 3.50, 4.35, 5.20** Расшифровка тайн. **14.40** Помпеи: после извержения. **15.55, 16.40** Титаник: истории из глубины. **17.30, 18.25** Мегаполис: секреты древнего мира. **19.20** Новые тайны терракотовых воинов. **20.20** Последние часы Помпеев: новые загадки. **21.15, 22.05** 5000 лет истории Нила. **22.55, 2.20, 3.00** Музейные тайны. **23.35** Расшифрованные сокровища. **0.25, 1.20** Тридцатилетняя война – Железный век.

### NATURE

**6.10, 7.00, 7.50, 8.45, 3.05, 4.00, 4.50** Выживание в дикой природе. **9.35, 10.25** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **11.15, 12.10, 13.05** Дикая Бразилия. **14.00, 14.50, 15.40, 16.25** Большой Барьерный риф: живое сокровище. **17.15** Ветеринар из глубинки. **18.00, 19.05** В зоопарке Таронга. **20.05** Смертоносные австралийцы. **20.55, 21.45** Суровая Австралия. **22.30, 23.25, 0.20** Гениальные морские охотники. **1.15, 2.10** Опасные исполины. **5.40** Природа в кадре.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **6.45, 7.30, 8.20** Авто-SOS. **9.15, 10.05, 5.10** Игры разума. **10.45** Китай с высоты птичьего полета. **11.35, 12.25, 13.15** Царство мумий. **14.05, 14.55, 15.50, 16.40** Затерянные сокровища Египта. **17.30, 18.25, 19.15, 20.10** Секретные материалы древности. **21.00, 21.50, 22.40** Атлас проклятых мест. **23.35, 0.25** Кровавые тайны Европы. **1.10, 2.00, 2.50** Осушить океан. **3.35, 4.25** Национальные парки Америки.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.00, 14.05, 22.10, 2.10** Экспедиции Андрея Старкова. **6.30, 10.30, 14.35, 22.40, 2.40** Люди дикого севера. **7.20, 11.20, 15.25, 3.25** Безграничная рыбалка. **7.45, 11.50, 15.55, 0.00, 3.55** Рыбалка 360. **8.15, 12.20, 16.25, 21.05, 0.30, 4.25** Давай зарубимся! **8.35, 12.40, 16.40, 4.40** Охота в Новом Свете. **9.00, 13.00, 17.00, 1.05, 5.00** Рыбалка без границ. **9.30, 13.35, 17.35, 1.40, 5.35** Мир рыболова. **18.05** Россия заповедная. **18.30** Кулинарное путешествие с Глебом Астафьевым. **19.05** Охота и рыбалка в. **19.35** Егерский кордон. **20.05** Научи меня рыбачить. **20.35** Рыбалка с Нормундом Грабовскисом. **21.25** Привет, Малек! **21.40** Охота в Приволжье. **23.30** Вкусные рецепты рыболова. **0.50** Популярная охота.

### УСАДЬБА

**6.00, 10.10, 14.10, 18.05, 22.00, 2.10** Преданья старины глубокой. **6.30, 10.40, 14.40, 18.35, 22.30, 2.40** Чай вдвоем. **6.45, 11.00, 22.50** Искусство в интерьере. **7.00, 11.20, 15.15, 19.10, 23.05, 3.10** Тихая моя родина. **7.35, 11.50, 15.45, 19.40, 23.40, 3.55** Ремонт для начинающих. **8.00, 12.20, 20.10, 0.10, 4.25** Лучки-пучки. **8.20, 12.40, 20.30, 0.30, 4.40** Инструменты. **8.35, 12.55, 16.50, 20.45, 0.40, 4.50** С пылу с жару. **8.50** Огород круглый год. **9.20, 3.40** Травовед. **9.40** Праздник в дом. **13.10, 17.05, 21.00, 1.00, 5.05** Чудеса, диковины и сокровища. **13.40, 17.35, 21.30, 1.25, 5.35** 10 самых больших ошибок. **14.55, 18.50, 2.55** Сладкая жизнь. **16.20** Огород круглый год. **1.55** Наш румяный каравай.

# Новы кінатэатр, нараджэнне спявачкі Ядвігі Паплаўскай

## Што прыносілі мінулыя гады Быка на Валожыншчыну

ВАЛОЖЫН

**Традыцыйна прыгадваем, што неслі мінулыя гады Быка ў рэгіён. І сёння разгледзім Валожыншчыну.**




Будынак былога ешыбота ў Валожыне. У 1997 годзе тут адкрылі мемарыяльную дошку з надпісамі па-руску, па англійску і на іўрыце.

### 1937

Загадам польскага камандавання ад 23 лютага пачалі першую фазу рэканструкцыі Корпуса аховы памежжа «R.3» у Валожыне. Батальён пры корпусе стаў адміністрацыйнай адзінкай для камандавання палка «Валожын», паліцэйскага ўчастка пры ім і станцыі паштовых галубоў «Багданаў».

У Валожыне адкрылі новы вайсковы кінатэатр. У горадзе былі тры рэкламныя кінавітрыны, дзе размяшчаліся фатаграфіі кінакадраў фільма, які збіраліся паказаць у бліжэйшы час.

### 1949

У вёсцы Дулідавічы (цяпер Івянецкі сельсавет) нарадзілася будучая спявачка **Ядвіга Паплаўская**.

У Валожыне арганізавалі гарадскую бібліятэку, якой загадвала **Еўдакія Церахава**.

На Валожыншчыне, як і па ўсім рэгіёне, ствараюць калгасы.

У Ракаўскай дзесяцігодцы пачынае выкладаць рускую літаратуру **Уры Фінкель** – беларускі крытык і літаратуразнаўца. Нарадзіўся ён таксама ў Ракаве ў 1896 годзе. Вядомы як аўтар біяграфічных кніг пра класікаў яўрэйскай літаратуры. Пісаў у асноўным на ідыш.

### 1961

У раённым вузле сувязі працуе адзін камутатар на 20 нумароў.

**У Валожыне, на месцы масавага знішчэння яўрэяў у 1941 годзе, з'явілася скульптура «Маці ў жалобе».**

Скасавалі Гіравіцкі сельсавет і далучылі яго да Ракаўскага.

У Івянецкім Доме культуры стварылі агітацыйна-харэаграфічны ансамбль «Журавінка», які дзейнічае сёння і мае званне народнага. Доўгі час ансамблем кіраваў **Іосіф Ляшчынскі**.

### 1973

Зарачанскі сельсавет перайменавалі ў Івянецкі.

Археолаг **Леанід Побаль** даследуе старажытнае гарадзішча ў паўднёва-ўсходняй частцы горада, на вуліцы Леніна. Мяркуюць, што ў сярэднія вякі тут былі гарадскія могілкі.

У студзені ў горадзе адчынілі дзіцячы садок «Пралеска».

**У ЗША памерла ўраджэнка Ракава Іда Разэнталь (год нараджэння 1886) – амерыканская прадпрымальніца, вынаходніца бюстгальтара.**

### 1985

У вёсцы Гілікі Івянецкага сельсавета археолаг **Яраслаў Звяруга** знайшоў і даследаваў старажытныя каменныя магілы. Захавалася больш за дзесяць магіл, пазначаных каменнымі плітамі. На іх ёсць крыжападобныя знакі і нерасшыфраваныя надпісы.

Памёр оперны спявак, саліст Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі, ураджэнец Ракава **Вікенці Бруй** (нарадзіўся ў 1912 годзе).

Ураджэнец вёскі Пугачы паэт **Віктар Шніп** паступіў у літаратурны інстытут у Маскве. А ўраджэнец Ракава, літаратуразнаўца і пісьменнік **Язэп Янушкевіч** пачынае працаваць навуковым супрацоўнікам у Інстытуце літаратуры НАН Беларусі.

### 1997

На базе Валожынскага раённага цэнтра культуры стварылі аб'яднанне народных майстроў «Скарбніца». Аб'яднанне з'явілася, каб падтрымаць народных майстроў і ўмельцаў, папулярызаваць народныя рамёствы, далучыць да іх дзяцей і моладзь. У 2001 годзе аб'яднанне атрымала найменне «народнае».

У вёсцы Забрэззе былую краму пачалі перабудоўваць пад касцёл, у Івянцы будавалі Свята-Еўфрасіннеўскую царкву. А ў царкве Прасвятой Багародзіцы ў Дорах зладзілі першае набажэнства.

У чэрвені з'явілася рабочая група па стварэнні **Валожынскага краязнаўчага музея.** Яна праводзіла работы па зборы прадметаў музейнага значэння, звязаных з гісторыяй Валожынскага раёна. Сам музей быў заснаваны праз тры гады.

Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску ўзначаліў акцёр ураджэнец Ракава **Рыгор Шацько**. Ён кіраваў тэатрам да 2012 года.

Школу ў Івянцы скончыў музыкант, шоўмен, лідар беларускага музычнага гурта «Дразды» **Віталь Карпанаў**.

**Замарозілі недабудаваны акушэрска-гінекалагічны корпус Валожынскай ЦРБ. У 2007 ён абрынуўся. Пацярпелых не было.**

На Валожыншчыне пачалі праводзіць конкурс песень «Залатыя шлягер». На ім удзельнікі спяваюць хіты 1960-1980-х гадоў.

На будынку былога ешыбота ў Валожыне адкрылі мемарыяльную дошку з тэкстам на рускай, англійскай мовах і іўрыце.

### 2009

Вёска Сакаўшчына стала звацца аграгарадком.

У Вішневе добраўпарадкавалі крыніцу, што недалёка ад ракі Альшанкі. Для абрамлення крынічкі стварылі ландшафтную кампазіцыю.

У Вільні, Мінску, Полацку, Гомелі ладзяць выставы арыгінальных фотаздымкаў прадстаўніка магнацкага роду, што жыў на Валожыншчыне, **Бенядыкта Генрыка Тышкевіча** (1852 – 1935). У сваім маёнтку Вялае, што сёння на тэрыторыі Валожыншчыны, Бенядыкт збудаваў адну з першых у Беларусі фоталабараторый.

**Утварылася агратурыстычная супольнасць раёна, аб'яднаная вакол зялёнага маршруту «Валожынскія гасцінцы».**

У Ракаўскай музычнай школе з педагогаў стварылі інструментальны ансамбль **Ars Longa**.

Валожынскі масласырзавод стаў філіялам Маладзечанскага малочнага камбіната.

Былы дом пісьменніка, недалёка ад Ракава, на беразе ракі Ісьлач, прадалі прыватнаму інвестару. Да гэтага часу будынак прыйшоў у заняпад і пачаў разбурацца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

---

● КАЛЯНДАР

**25 СНЕЖНЯ**

**1962.** Горад Дрыса Віцебскай вобласці атрымаў назву Верхнядзвінск.

**26 СНЕЖНЯ**

**1991.** Савет Рэспублік Вярхоўнага Савета СССР канстатаваў спыненне існавання СССР у сувязі з утварэннем СНД.

**27 СНЕЖНЯ**

**1927.** Заключаная дамова аб абмене палітычнымі вязнямі паміж Польшчай і СССР.

**1934.** Персія змяніла назву на Іран.

**28 СНЕЖНЯ**

**1920.** Скончыліся баявыя дзеянні Слуцкага антыбальшавіцкага паўстання. Доўжыліся адзін месяц.

**1961.** Нарадзіўся беларускі пісьменнік і пчаляр **Мікола Папека**. У 1979 годзе скончыў Алёхнавіцкую сярэднюю школу ў Маладзечанскім раёне. Жыве на Брэстчыне.



**29 СНЕЖНЯ**

**1968.** Заснаваны маладзечанскі завод металаканструкцый, адзін з найбуйнейшых у Еўропе заводаў па вырабе металічных будаўнічых канструкцый.

**30 СНЕЖНЯ**

**1904.** У Маладзечне нарадзіўся **Зэлік Аксельрод**, яўрэйскі савецкі паэт, перакладчык. Брат мастака **Меера Аксельрода**.



**31 СНЕЖНЯ**

**1918.** Нямецкія войскі пакінулі Вільню.

**1983.** Пачала працу Ігналінская АЭС.

**1990.** Пачала дзейнічаць другая лінія Мінскага метрапалітэна.

**2009.** Закрыты апошні бок Ігналінскай АЭС.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Вы будзеце купацца ў каханні, калі самі напоўніце ванну

## Што чакае на працы і ў каханні ў 2021 годзе ваш знак задыяка

**Пасля цяжкасцяў высакоснага 2020 года хочацца верыць, што надыходзячы год стане больш прыемным і лагодным. Давайце паглядзім, што абяцаюць зоркі знакам задыяка ў год Быка.**

### Авен



Кожныя 12 год вяртаецца год Быка нібы спецыяльна для таго, каб навучыць вас цярплівасці і вытрымцы. І вам варта не спыняцца, а ўпарта імкнуцца, каб дасягнуць сваіх мэт.

Калі вы возьмецеся за справу, якая натхняе і дорыць задавальненне, то давядзецца нямала папрацаваць і нават не адзін раз успацець. Пастарайцеся менш часу траціць на тое, каб разварушыцца. Будзе адчуванне, што вы зразумееце, як усё трэба рабіць, толькі падчас працэсу. Так што менш слоў, больш справы – ваша формула для поспеху ў 2021 годзе.

У асабістым жыцці вас чакае стан, калі будзе хацецца простых радасцяў і не азмрочваць настрой бурнымі высвятленнямі адносін. На шчасце, партнёр, які вам падыходзіць, у вас ёсць або хутка з'явіцца.

### Цялец



Для вас год будзе нібы выйгрыш у латарэі. Нарэшце дадуць плён вашы грунтоўныя рысы: уменне ўнікнуць у сутнасць, прадпрымальнасць, разважлівасць. Вас чакаюць знаёмствы, якія могуць вельмі моцна змяніць жыццё.

У новым годзе вы можаце смела задумаць буйны праект. Вельмі ўдалымі будуць рашэнні, звязаныя з жыллём – купіць, адрамантаваць, перапланаваць. Усё гэта будзе ісці на карысць. Спробы сабраць грошы таксама будуць удалымі, толькі дакладна сфармулюйце мэту.

З рамантыкай усё будзе добра, асабліва ў канцы года.

### Блізняты



Зоркі абяцаюць вам надзвычайны ўздым духу. Вы нібыта атрымаеце другое дыханне і будзеце гатовыя ўвасобіць самую буйную справу, якую рабілі ў жыцці. Калі вы адказна падыдзеце да пытанняў, то можаце вельмі паспяхова закруціць свае жыццё.

Найважнейшым пунктам у шляху да поспеху стане супрацоўніцтва з надзейнымі людзьмі, праверанымі ў няпростых сітуацыях. Будзьце сумленнымі і не лянуйцеся – і вы будзеце ў захапленні ад таго, што здолееце зрабіць за 2021 год.

У асабістым жыцці чакае расслабленне і паразуменне. Не сарамейцеся шчыра абмяркоўваць з партнёрам усе свае патрэбы, гэта дапаможа пазбегнуць большасці праблем.

### Рак



На вас ускладзецца яшчэ большая нагрузка, чым звычайна. Таму сур'ёзным выклікам стане праца ў незнаёмай абстаноўцы і з новымі праектамі. Поспех чакае тады, калі будзеце супрацоўнічаць з людзьмі, што валодаюць кампетэнцыямі, якія пакуль западаюць у вас. Не спыняйцеся вучыцца новаму, і ваша незаменнасць будзе відавочная.

У пачуццёвай сферы вы можаце атрымаць нечаканы падарунак – новае знаёмства, якое перакуліць асабістае жыццё. Прыглядзьцеся да тых, з кім выпадкова лёс будзе звязваць у сакавіку-красавіку, гэта можа быць чалавек, наканаваны лёсам.

### Леў



Вас чакае раптоўны фінансавы ўздым. Гэта будзе вынік нястомнай працы, якую вы сумленна рабілі апошнія гады. Нарэшце ўсе вашы высілкі будуць узнагароджаныя. Вы можаце заслужана ганарыцца дасягненнямі.

Самым важным у новым годзе будзе праяўляць дальнабачнасць у розных пытаннях – як прафесійных, так і сямейных.

У асабістым жыцці чакаецца прыемная прыгода з чалавекам, з якім звязвае доўгая сумесная гісторыя.

### Дзева



Асабліва важным стане ўменне кіраваць працэсамі рознага ўзроўню. Як на працы, так і дома менеджарскія здольнасць прывядуць да доўгачаканых вынікаў. Шмат часу будзе патрабаваць сям'я – не шкадуйце рэсурсаў для самых блізкіх людзей.

Будзьце як мага больш пяшчотнымі з каханымі, асабліва восенню. Увогуле старайцеся быць як мага больш ветлівымі і прыемнымі з тымі, хто вакол вас незалежна ад статусу і іншых акалічнасцяў. Гэта дапаможа знайсці аднадумцаў, партнёраў і сяброў.

### Шалі



Вам пажадана больш адпачываць і клапаціцца пра сябе. Справа ў тым, што поспех будзе не вельмі моцна залежаць ад таго, колькі намаганняў вы прыкладзеце. Для некаторых рэчаў высілкі толькі будуць ствараць вакол хаос, а выніку ніякага не дадуць.

Затое калі вы прывядзіце пачуцці ў раўнавагу, і часам будзеце адпускаць сітуацыю, то многае атрымаецца вырашыць нашмат хутчэй, чым калі б вы прыкладалі ўсе намаганні.

У асабістым жыцці чакаюць прыгоды, калі вы самі іх захочаце. Памятайце, што добра ўсё, што прыносіць задавальненне. А калі адносіны непрыемныя і складаныя, напэўна, лепш іх спыніць.

### Скарпіён



Вы нібыта знойдзеце батарэйку, ад якой будзеце ўвесь час зараджацца і не стамліцца. Магчыма, сакрэт будзе ў тым, што вы не будзеце сябе перагатамляць, пачняце дакладна вызначаць, калі прыйшоў час узяць паўзу, а сам адпачынак будзе актыўным і ў плане руху, і ў плане кампаніі.

У прафесійнай сферы чакае адкрыццё, якое прыемна ўразіць. Вялікіх перамен у жыцці варта пазбягаць, няшмат шанцаў, што яны закончацца добра.

Што тычыцца асабістага жыцця, то тут вялікі шанец на знаёмства ў пачатку года. Верагодна, гэта тое, чаго даўно чакалі, так што не прапусціце магчымасць. Калі ж вы маеце пару, то чакае спакойны і гарманічны перыяд у аднасінах.

### Стралец



Вас чакае добры і спакойны год. Нішто не будзе замінаць атрымліваць асалоду ад звычайных рэчаў. Важна клапаціцца пра здароўе, не адмаўляць сабе ў рэчах, якія прыносяць радасць.

Часам вам будзе не так проста стрымаць эмоцыі, але ўсё ж старайцеся супакойваць сябе ў непрынцыповых сітуацыях. Памятайце, што заўсёды побач блізкія людзі, якія вас цэняць і гатовыя падтрымаць. А таксама, каб штосьці атрымаць, пра гэта трэба папрасіць.

У асабістым жыцці вам будзе лянота штосьці кардынальна мяняць. Хіба што вялікае каханне можа падштурхнуць на крокі, якіх самі ад сябе не чакалі.



Расказваем, чаго чакаць знакам задыяка ў новым годзе.

Фота pinterest.com.

### Казярог



Так будзе складвацца, што большасць спраў вы зможаце даверыць толькі самому сабе. Вас будзе раздражняць, што іншыя не разумеюць элементарных рэчаў. І давядзецца такія рэчы тлумачыць. Напрыклад, як важна быць пунктуальнымі.

Затое ваша прынцыповасць будзе прыводзіць да сур'ёзных крокаў наперад у справах. І неўзабаве калегі зразумеюць, што патрабавальнасць з вашага боку – не капрыз, а праца над эфектыўнасцю.

Што тычыцца рамантычнай сферы, то яна будзе для вас не на першым месцы. Затое тут ужо будзе дакладна працаваць прынцып: колькі ўклалі – столькі і атрымалі.

### Вадалей



Увесь год будзе цесна ў галаве ад цікавых ідэй. Праблемай стане, як пераканаць іншых у тым, што гэтыя ідэі такія выдатныя. Спатрэбіцца ставіць сябе на месца іншых, праяўляць тактоўнасць і ветлівасць – усё гэта вельмі дапаможа данесці думку. Так што будзьце гнуткія і кемлівыя, і ўсё атрымаецца.

Што тычыцца кахання, то вы будзеце купацца ў ім, калі самі напоўніце ванну.

### Рыбы



Вы не захочаце спяшацца, будзе хацецца часцей спыніць імгненні – таму што яны будуць вартыя таго. Такі тэмп акажацца менавіта тым, што трэба. Пастарайцеся быць дакладнымі, а хуткасць будзе другаснай справай.

Вельмі ўдалы год для тых, хто шукае каханне. Не сарамейцеся і будзьце ініцыятыўнымі, і вы будзеце вельмі задаволеныя тым, што атрымаецца.

**Эмілія ХВОЯ.**

# У новы год – без аднаразовага пластыку

## Як забарона на аднаразовы посуд адаб'ецца на кавярнях і іх кліентах

**Ад 1 студзеня 2021 года ўступае ў сілу пастанова Савета Міністраў, паводле якой у пунктах грамадскага харчавання нельга будзе выкарыстоўваць аднаразовы пластыкавы посуд.**

Ці значыць гэта, што ад новага года нельга будзе ўзяць каву на вынас? Або запакаваць у кантэйнер недаедзеную ў рэстаране страву? Шукаем адказы разам з экспертамі.

### Ад чаго давядзецца адмовіцца?

Тое, што пластык запаланіў кожную сферу нашага жыцця, ужо ні ў каго не выклікае сумневаў. Цяжка нават уявіць, як людзі абыходзіліся без яго пару дзесяцігоддзяў таму. Ужо для некалькіх пакаленняў малако ў шкляной бутэльцы, мыла, загорнутае ў паперу, або зубная паста ў металічным цюбіку выглядае нязвыкла.

– За апошнія 65 гадоў вытворчасць пластыку ва ўсім свеце павялічылася ў 190 разоў, – прыводзіць лічбы кіраўнік праграмы па адходах і хімічных рэчывах Цэнтра экалагічных рашэнняў (ЦЭР) **Яўген Лабанаў**.

> **– На сённяшні дзень толькі 9% ад усіх яго аб'ёмаў ідзе на перапрацоўку. Гэта агульная лічба па ўсім свеце. Яшчэ 12% спальваецца, а 79% адпраўляецца на звалкі.**

Сітуацыя ў Беларусі мала чым адрозніваецца ад агульнай у свеце. Як і паўсюль, самымі праблемнымі відамі пластыку з'яўляюцца поліэтылен і полістэрол. З першага робяць тонкія пакеты, з другога – белыя кантэйнеры для прадуктаў. І пакеты, і кантэйнеры не перапрацоўваюцца ў Беларусі, пры гэтым выкарыстоўваюцца вельмі шырока.

Вядома, ёсць сферы, дзе не абысціся без аднаразовага пластыку – напрыклад, медыцына і фармакалогія. Аднак у іншых сферах пластык не з'яўляецца жыццёва неабходным.

Першая забарона пластыкавых рэчаў у Беларусі ўступіць у сілу ад новага 2021 года і будзе тычыцца пунктаў грамадскага харчавання.

– Такая забарона – пазітыўная мера, – кажа Яўген Лабанаў. – Да яе ўжо прыйшлі многія краіны, у тым ліку Еўрапейскі саюз. Пакуль забарона тычыцца абмежаванай колькасці тавараў. Спадзяёмся, што гэты спіс будзе пашырацца.

Ад 1 студзеня 2021 года ў пунктах грамадскага харчавання нельга будзе выкарыстоўваць пластыкавы посуд, а менавіта:

– відэльцы
– лыжкі
– нажы
– палачкі для размешвання напояў
– кубачкі
– трубачкі (саломкі) для напояў
– упакоўкі для прадукцыі грамадскага харчавання і прадуктаў (кантэйнеры, латкі, ланч-боксы)

Выключэнне – упакоўка для кулінарных паўфабрыкатаў і кандытарскіх вырабаў.

### Ці забароняць папяровы посуд?

Падчас распрацоўкі пастановы беларускія спецыялісты бралі за аснову дырэктыву Еўрапейскага саюза, распрацаваную ў 2019 годзе.

– Самымі істотнымі ў нашай працы сталі чатыры кірункі: як забарона будзе ўплываць на бізнес, на вытворчасць, на імпарт і цэнавую сітуацыю на рынку, – кажа старшыня ўпраўлення арганізацыі гандлю і грамадскага харчавання Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю (МАРТ) **Міхаіл Жыгала**.

Падчас даследавання беларускага рынку высветлілася, што каля 50% аб'ектаў грамадскага харчавання выкарыстоўваюць экалагічна бяспечную тару. Таму пастанова ніяк не паўплывае на іх працу. Іншыя ж будуць вымушаныя перайсці на іншы від посуду.

– У сувязі з пастановай у бізнесоўцаў узнікае шмат пытанняў наконт таго, як трактаваць забарону, – дадае Міхаіл Жыгала. – Таму на сайце МАРТ мы размясцілі адказы на самыя частыя пытанні. Там жа ёсць спіс пастаўшчыкоў экалагічна бяспечнай упакоўкі, якія працуюць на беларускім рынку, іх каля 1500.



У Маладзечне таксама ёсць кавярні, дзе вы можаце папрасіць наліць напоі ў свой кубак.

У першым квартале 2021 года МАРТ правядзе паўторнае даследаванне і аналіз таго, як забарона паўплывала на грамадскае харчаванне. У залежнасці ад вынікаў пастанову будуць карэктаваць.

Эколагі звяртаюць увагу на тое, што пад аднаразовым посудам у пастанове маецца на ўвазе менавіта пластыкавы посуд. Значыць, папулярныя ў кавярнях папяровыя кубачкі і талеркі не трапяць пад забарону.

> **– Мы разумеем, што папяровыя кубачкі маюць унутры слой ламінацыі, таму не з'яўляюцца экалагічнай заменай для пластыку, – заўважае Міхаіл Жыгала. – Папяровыя кубачкі ў Беларусі не перапрацоўваюцца і адпраўляюцца на звалкі. Хоць пластыку ў іх складзе менш, але ён усё ж ёсць.**

Таму іх таксама варта было б забараніць. Але на дадзеным этапе папяровыя кубачкі стануць альтэрнатывай для бізнесоўцаў. Мы будзем глядзець на іх рэакцыю і, магчыма, наступным крокам стане забарона і папяровага посуду з ламінацыяй.

Пад забарону не трапілі і пластыкавыя накрыўкі для аднаразовых кубкаў – іх даюць у кавярнях, калі вы бераце напой на вынас. Альтэрнатывы для іх у Беларусі пакуль няма, таму і адмовіцца ад іх цяжка.

### Ад чаго яшчэ варта адмовіцца ў кавярнях і рэстаранах?

Калі для бізнесу адмова ад пластыку будзе выпрабаваннем, то ў эколагаў ёсць свае прапановы для наступнай часткі абмежаванняў.

– Не трэба чакаць загадаў зверху, каб зрабіць менавіта вашу кавярню больш экалагічна сяброўскай, – лічыць спецыяліст ЦЭР па кірунку «Нуль адходаў» **Марыя Сума**. – Напрыклад, можна адмовіцца ад пакетаванага цукру і спецый. Упакоўкі для іх таксама маюць ламінацыю ўнутры і не перапрацоўваюцца. Іх лёгка можна замяніць шклянымі ці керамічнымі наборамі для спецый.

> **Таксама кавярні могуць далучыцца да ініцыятывы My cup, please! («У мой кубак, калі ласка!») і рабіць скідку тым кліентам, якія просяць наліць напой у прынесены з сабой кубак або тэрмас.**

Ёсць і менш відавочныя спосабы зрабіць сваю кавярню больш экалагічна сяброўскай. Напрыклад, распрацаваць эфектыўнае меню – каб інгрэдыенты ў стравах паўтараліся, у выніку чаго будзе ўтварацца менш адходаў.

Варта задумацца і над стварэннем сезоннага меню – калі адмовіцца ад клубніц у сярэдзіне зімы, то на вашы плечы не ляжа экалагічны след яе дастаўкі з іншага канца Зямлі.

А яшчэ можна задумацца над трэндам, які становіцца ўсё больш папулярным па ўсім свеце, – аддаваць прадукты, якія засталіся пасля прыгатавання, людзям ці арганізацыям, а не выкідаць іх.

### Кавярня без пластыку прыносіць не толькі даход, але і радасць

– Калі мы адкрывалі сваю кавярню год таму, то і самі не былі ўпэўненыя, што ўсё атрымаецца, – кажа **Алёна Маркіна**, уладальніца кавярні без пластыку ў цэнтры Мінска. – Але вырашылі: калі не паспрабуем, то і не даведаемся.

Кавярня працуе ўжо другі год. Тут не толькі няма аднаразовага (у тым ліку папяровага) посуду, але і арганізаваны асобны збор смецця, а таксама збор кампосту – яго часткова аддаюць знаёмым фермерам.

Таксама ў кавярні выкарыстоўваюць толькі папяровыя ручнікі, зробленыя са 100% макулатуры, а яшчэ спрабуюць закупляць прадукты без тары – напрыклад, садавіну і гародніну проста перакладваюць са скрынь пастаўшчыка ў сваю.

– Кліентам цікавы такі фармат кавярні, – кажа ўладальніца. – Хаця часам здараюцца і непрыемныя сітуацыі. Напрыклад, у гарачае надвор'е даводзіцца па 20 разоў на дзень паўтараць, што мы не маем саломінак для напояў. Але нават калі кліент з-за гэтага адмовіцца ад пакупкі, я не лічу гэта пройгрышам. Мы пасеем у яго душы насенне сумневу – што такое ў гэтых саломках, калі ад іх адмаўляюцца?

> **Праца ў такой кавярні дае свае маленькія радасці: напрыклад, у ёй смецце выносяць толькі раз на тыдзень, у той час калі для звычайнай кавярні гэта штодзённая працэдура.**

У планах Алёны – наладзіць пастаўку малака ў шкляных бутэльках ад фермераў, каб не давялося выкідаць у смецце тэтра-пакі, якія пакуль не перапрацоўваюцца ў Беларусі.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

# Два з паловай гады турмы – за

## Маладзечанец расказаў гісторыю жыцця сястры –




Фота: Белсат.

Наталлю затрымліваюць у Мінску 20 верасня.

МАЛАДЗЕЧНА

**Гэты верасень беларуска Наталля Хершэ планавала правесці з каханым чалавекам у Італіі. А апынулася ў беларускай турме. Два з паловай гады жанчына атрымала за сарваную з амапаўца балаклаву.**

Гісторыю сваёй роднай сястры, грамадзянкі Швейцарыі Наталлі Хершэ, нам расказаў жыхар Маладзечна доктар **Генадзь Касьян**. Хацеў расказаць і ў аршанскую газету, каб пра Наталлю больш даведаліся землякі. Але, па словах Генадзя, у роднай Оршы газет, якія б маглі напісаць гісторыю сястры, ужо даўно няма.

### У Беларусі не бачыла будучыні для дзяцей

– Мы з Наташай з Оршы. Бацькі разышліся, калі мне было чатыры, а сястры – два з паловай гады. Але бацька не кідаў нас. Летнія канікулы мы з сястрой часта бавілі на яго радзіме – у Пружанах, – прыгадвае Генадзь дзяцінства.

Адносіны ў брата з сястрой заўсёды былі добрыя. Разам вучыліся ў школе №17 у Оршы. Пасля школы Генадзь пайшоў у войска, потым паступіў у медінстытут. Наталля вывучылася ў аршанскім тэхнікуме на бухгалтара, а затым атрымала прафесію эканаміста ў тагачасным наргасе. Выйшла за аршанскага хлопца, нарадзіліся сын і дачка. Аднак з мужам жыццё не склалася, разышліся. Праўда, былы муж па магчымасці клапаціўся пра дзяцей.

– Наташа працавала бухгалтарам у раённым аддзеле сацыяльнага забеспячэння ў Оршы. Было нялёгка – маленькія дзеці, нетрывалае матэрыяльнае становішча, адсутнасць будучыні для сябе і для дзяцей, – дзеліцца брат.

Урэшце жанчына сказала родным: «Не хачу да пенсіі хадзіць на працу і з працы ў аддзел сацзабеспячэння, атрымліваць жабрацкі заробак, жыць без будучыні для сябе і дзяцей…».

Адзіным выйсцем бачыла ад'езд за мяжу. Хацела, каб дзеці атрымалі добрую адукацыю, жылі ў дэмакратычнай, цывілізаванай еўрапейскай краіне.

Родныя падтрымалі рашэнне Наталлі. Па інтэрнэту яна пазнаёмілася з мужчынам са Швейцарыі **Бруна Хершэ**. Атрымала ад яго выклік і паехала за мяжу. Пакуль уладкоўвалася ў новай краіне, мама Наталлі гадавала яе дзяцей-школьнікаў. Калі ж беларуска атрымала афіцыйную працу і стала жонкай Бруна, яна забрала і іх у Швейцарыю. А ў 2016 годзе Наташа і яе дзеці атрымалі грамадзянства.

Бруна быў вельмі простым, добрым чалавекам. Клапаціўся пра Наталлю, не падпускаў яе да пліты. У дзяцей было ўсё. Калі прыязджаў у Оршу, падарыў Наташынай маме пральную машыну.

Два гады таму Бруна памёр. І праз пэўны час у Наталлі склаліся адносіны з іншым швейцарцам – айцішнікам **Робертам**.

Адразу па прыездзе дзецям Наташы было цяжкавата ў новай краіне. У школу мусілі пайсці на клас ніжэй. Але дачцэ, **Віялеце**, нямецкая мова давалася лёгка. Яшчэ ў Беларусі яна была пераможцай рэспубліканскай алімпіяды. З часам засвоіў мову і сын, **Фёдар**.

На сёння дзеці ўжо скончылі школу. Фёдар не захацеў вучыцца далей і пайшоў працаваць спецыялістам па рамонце аўтамабіляў да прыватнага прадпрымальніка. А Віялета стала студэнткай Цюрыхскага ўніверсітэта, вучыцца на псіхолага.

### У Швейцарыі цэняць і добра аплачваюць любую сумленную працу

Наталлі ж беларускі дыплом аб вышэйшай адукацыі аказаўся абсалютна непатрэбным. З дапамогай Бруна яна ўладкавалася прыбіральшчыцай на прыватны бровар. Працавала сумленна. Праз пару месяцаў гаспадар пабачыў, што новая работніца можа больш. Наталлю перавялі ў лабараторыю якасці. А вышэйшая пасада – значыць, вышэйшы аклад. Жанчына пасябравала з калегамі, набыла аўтарытэт.

Яшчэ з дзяцінства яна мела талент да малявання. Алоўкамі стварала адзенне для папяровых лялек. Але ў Беларусі з-за штодзённых клопатаў і нястачы закінула любімы занятак. За мяжой з'явілася больш грошай і вольнага часу. Таму яна змагла вярнуцца да рысавання. Чытала кнігі пра выяўленчае мастацтва, пачала ствараць партрэты знаёмых алоўкам.

**Якім жа было яе здзіўленне, калі знаёмыя і незнаёмыя людзі пачалі замаўляць у яе партрэты і нават плаціць за гэта грошы – па дзвесце швейцарскіх франкаў за адзін партрэт. Гэта прыкладна 575 беларускіх рублёў.**

– Сястра была так рада, што займаецца любімай справай і яшчэ атрымлівае за гэта грошы. А ў Швейцарыі – гэта звычайная справа. Там любая прафесійная сумленная праца ацэньваецца належнымі грашыма. І вышэйшая адукацыя цэніцца. Чым больш ты ўкладваешся ў вучобу, тым большы заробак пасля атрымліваеш.

У Рамансхорне, дзе жылі Наташа і Бруна, прайшла яе персанальная выстава карцін у прыватнай галерэі. Пра выставу шмат пісалі ў СМІ. Пасля гэтага Наталля ездзіла на двухтыднёвыя курсы па жывапісе акварэллю ў Санкт-Пецярбург.

### За месячны заробак Наталля магла набыць аўтамабіль

У Наташы ўсё было добра і ў асабістым жыцці, і ў матэрыяльным плане. Генадзь цешыўся з сястры:

– Сям'я Наташы здымала шыкоўную пяціпакаёвую кватэру на беразе маляўнічага Бадэнскага возера. А за адзін свой заробак сястра магла набыць 6-7-гадовы аўтамабіль. Пры гэтым, па швейцарскіх мерках, яна не была багатай.

Два разы Генадзь з дзецьмі гасцяваў у Наталлі. Сястра паказвала нам мясцовыя славутасці, вадзіла ў Альпы. Госці былі ўражаны маляўнічасцю горнага возера і знаходжаннем на вышыні ў тры тысячы метраў.

### Параўноўвала жыццё ў Беларусі і Швейцарыі

Палітычныя погляды Наталлі складваліся паступова, кажа Генадзь. Сястра была ў шматлікіх еўрапейскіх краінах. Бачыла, як там жывуць людзі, як дзяржава ставіцца да сваіх грамадзян, на якім узроўні там дэмакратыя. Беларуска была ўражаная, што ў Швейцарыі выбары прэзідэнта ла-

# знятую з амапаўца балаклаву

## грамадзянкі Швейцарыі Наталлі Хершэ


Фота забеспечанае Генадзем КАСЬЯНАМ.

Генадзь са сваімі дзецьмі, Кацярынай і Даніілам, і сястрой напярэдадні яе затрымання.


Фота чытача Радыё Свабода

Акцыя ў Цюрыху ў падтрымку Наталлі Хершэ.

дзяць штогод. І тым, што ў швейцарскім горадзе Сант-Галене гараджане выбіраюць мэра, сабраўшыся на плошчы і падымаючы рукі.

– Наталля ўвесь час параўноўвала Беларусь з іншымі еўрапейскімі краінамі. Адзначала, што ідуць гады, а ў нас нічога не мяняецца да лепшага. Што ў людзей з вышэйшай адукацыяй – жабрацкія заробкі, ды і працу не знайсці, – кажа Генадзь. – Асабліва сястра пачала цікавіцца палітыкай пасля выбараў 2010 года.

### Патэлефанавала ў амбасаду і падзякавала за сумленныя выбары

Разам з беларусамі Швейцарыі сёлета ў жніўні Наталля выбірала прэзідэнта Беларусі. Калі ў амбасадзе падлічылі галасы, аказалася, што за Лукашэнку прагаласавала ў сем з паловай разоў менш, чым за Ціханоўскую. Даведаўшыся пра вынікі, беларуска патэлефанавала ў амбасаду і падзякавала за сумленны падлік. І прыкладна такіх лічбаў чакала ад выбараў у Беларусі.

– Ад мяне і ад сваіх сяброў з Беларусі Наталля ведала пра тое, што адбывалася ў Маладзечне і іншых гарадах пасля 9 жніўня. Вельмі перажывала, што не можа быць са сваім народам.

### Зваротны білет не спатрэбіўся

Сёлета Наталля Хершэ не планавала ехаць у Беларусь. Думалі з Робертам правесці адпачынак у Італіі. Але ў мужчыны адпачынак сарваўся. Тады Наталля нават узрадавалася. Вырашыла на дзесяць дзён з'ездзіць у Беларусь. Патэлефанавала і сказала брату: «Я прылятаю. Не абмяркоўваецца!»

На радзіму Наталля прыляцела 10 верасня, а зваротны білет быў на 21. Спынілася ў сваёй сяброўкі **Алены** ў Мінску. Разам хадзілі на дваровыя канцэрты, жаночыя маршы. Цешылася, што Беларусь становіцца новай. Кожны дзень была ў добрым настроі.

– За дзень да затрымання сястры мы з дзецьмі прыехалі да яе ў Мінск. Наталля прывезла нам шмат падарункаў. Яна заўсёды шчодра адорвала замежнымі гасцінцамі не толькі родных, а таксама дзяцей сваіх сябровак. Зайшлі ў кавярню, пасядзелі каля дзвюх гадзін. Я папрасіў сястру быць асцярожнай. І развіталіся, – прыгадвае суразмоўца падзеі верасня.

У нядзелю Наталля патэлефанавала брату, сказала, што ідзе на акцыю да Камароўкі. Дома Генадзь глядзеў жывы эфір:

– Бачыў, як сястра, прыгожая, яркая, гордая, з узнятым бел-чырвона-белым сцягам ідзе сярод удзельнікаў шэсця. Нават зрабіў скрын і адаслаў ёй на вайбер. Пасля ўбачыў, што кагосьці затрымліваюць. Пачаў званіць Наташы. Яна паспела яшчэ зняць трубку, пачуў узрушаныя галасы. А пасля Наталля сказала, што іх затрымліваюць. Зразумеў, што ў хуткім часе тэлефон стане недаступным. Так і адбылося. Але з аўтазака яна яшчэ паспела напісаць пра затрыманне свайму Роберту ў Швейцарыю.

Вечарам таго ж дня многіх сталі адпускаць. На Акрэсціне засталося каля 30 жанчын. Сярод іх – Наталля. Пазней сваякі знайшлі яе ў спісах «Вясны».

Генадзь здзівіўся, калі даведаўся, што сястру будуць судзіць па артыкуле 363.2 Крымінальнага кодэкса – супраціўленне міліцыянеру з прымяненнем гвалту або пагрозай яго прымянення. Яшчэ не разумеючы, адкуль крымінальная справа, разам з сяброўкай Наташы Генадзь знайшоў адваката. Пра абставіны затрымання выпадкова даведаўся з відэа:

– Бачу ў інтэрнэце загаловак: «Жанчына здымае балаклаву з амапаўца». Уключаю і гляджу: гэта ж мая Наташа! Але моманту зрывання на відэа не было. Толькі, як Наташа трымаецца за балаклаву рукой. А пасля ўбачыў, як яе нясуць у аўтазак.

### Адвакат папярэджваў суд: Падумайце пра імідж Беларусі ў свеце

Пачаліся судовыя пасяджэнні. Генадзь быў на першым і на другім. Адвакат знайшоў шмат супярэчнасцяў у паказаннях камандзіра АМАПа і яго падначаленага, пацярпелага **Сяргея Кончыка**. Не маглі паказаць відэа ні з камер назірання, ні з нагрудных камер амапаўцаў.

> **Адвакат настойваў на тым, каб перакваліфікаваць справу ў адміністрацыйную. Звяртаў увагу, што справа мае міжнароднае значэнне, што імідж Беларусі ў свеце вельмі пацерпіць.**


Фота забеспечанае Генадзем КАСЬЯНАМ.

У СІЗА Наталля малюе партрэты сукамерніц.

На судзе Наталля казала, што яна, доўгі час пражыўшы ў дэмакратычнай краіне, вельмі спалохалася, калі на маршы яе пачалі затрымліваць невядомыя людзі ў аліўкавым адзенні без апазнавальных знакаў, са схаванымі тварамі, не прадстаўляючыся.

А апошняе слова Наталлі Хершэ было наступным: «Я жыву ў еўрапейскай дэмакратычнай краіне. Дэмакратычныя прынцыпы свабоды з'яўляюцца неабходнымі прынцыпамі кіравання на ўсіх узроўнях улады. І правы свабоды слова і мірных сходаў дакладна вызначаныя Канстытуцыяй і гарантуюцца дзяржавай. Дзе міліцыянеры не хаваюць сваіх твараў перад мірнымі дэманстрантамі. Менавіта такой я бачу сваю Радзіму. Беларусь будучыні. Свабодную Беларусь!»

### Прысуд не быў нечаканасцю

– Прысуд – два з паловай гады – не быў для мяне нечаканасцю. Але я ўсё ж думаў хаця б пра год ці паўтара. А тут прысудзілі роўна столькі, колькі прасіў пракурор.

А вось для Наташынага Роберта прысуд стаў шокам. Ён быў упэўнены, што Наташу адпусцяць і Новы год яны сустрэнуць разам.

Генадзь адзначыў, што з боку Швейцарыі шмат робіцца для вызвалення Наталлі. Паказальна тое, што ў панядзелак абвясцілі прысуд, а ў пятніцу такая нейтральная краіна, як Швейцарыя, далучылася да санкцый Еўрасаюза і замарозіла актывы Лукашэнкі. Швейцарскія СМІ шмат пішуць пра Наталлю. Яе справай займаюцца на ўзроўні парламента.

Днямі Наталля са сваім адвакатам падалі на абскарджанне прыгавору.

– Аднак мы не асабліва верым, што суд нешта зменіць. У Наташынай сітуацыі нешта памяняць змогуць палітычныя падзеі, – дзеліцца Генадзь.

### Настрой выдатны, нягледзячы ні на што

Цяпер Наталля сядзіць у СІЗА на Валадарцы. Малюе партрэты сваіх сукамерніц. Днямі даслала брату ліст з такімі словамі: «...Настрой мой, нягледзячы ні на што, выдатны. Усё будзе, як павінна быць. І ніяк інакш. Тое, што спачатку падаецца катастрофай, можа стаць вялікім, вялікім шанцам. Веру, што так яно і ёсць».

Магчыма, нехта з нашых чытачоў захоча напісаць ліст Наталлі. Адрас: 220030, Мінск, вул.Валадарскага, 2. СІЗА-1. Хершэ Наталлі Анатольеўне.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Хакеіст з вілейскімі каранямі згуляе за каманду НХЛ

**Хакеіст мінскага «Дынама» Ягор Шаранговіч адправіцца на трэніровачныя зборы «Нью-Джэрсі Дэвілз».**

### Спроба прабіцца ў топ-лігу

Хакеіст **Ягор Шаранговіч** павінны з'ехаць на трэніровачныя зборы хакейнага клуба «Нью-Джэрсі Дэвілз», які выступае ў Нацыянальнай хакейнай лізе. «Дэвілз» задрафтавалі Шаранговіча яшчэ ў 2018 годзе і падпісалі з ім трохгадовы кантракт.

**Падчас збораў беларускі хакеіст паспрабуе прабіцца ў фінальны склад каманды на сезон-2021. Сезон Нацыянальнай хакейнай лігі пачнецца 13 студзеня.**

### Неверагодны сезон у мінскім «Дынама»

У гэтым сезоне на рахунку Шаранговіча 17 шайбаў і 8 асістаў у 34 матчах КХЛ у складзе мінскага «Дынама». Ягор з'яўляецца адным з самых рэзультатыўных гульцоў сталічнага клуба.

Шаранговіч перайшоў з «Дэвілз» у «Дынама» на правах арэнды. Аб гэтым стала вядома 16 ліпеня. Тады ж прэс-служба «Нью-Джэрсі» паведамляла, што пазавуць гульца ў трэніровачны лагер для падрыхтоўкі да будучага сезона. Дата трэніровачных збораў праз каранавірус перанеслася з 17 лістапада на канец снежня.

**Апошнія два гады Шаранговіч выступаў у АХЛ за фарм-клуб «Нью-Джэрсі» – «Бінгемтон». У 125 матчах ён набраў 61 (19+42) ачко.**

Раней Шаранговіч ужо выступаў за мінскае «Дынама» ў КХЛ. Тады ў 47 паядынках ён набраў 12 (4+8) балаў, чым заслужыў выбар на драфце НХЛ-2018.



Настасся УТКІНА
anastasiautkina94@gmail.com
(8-0176) 53-78-06




Фота belarushockey.com.

Шаранговіч адправіцца на зборы ўжо на гэтым тыдні.

## Праўладны ліст спартсменаў падпісаў маладзечанскі адзінаборца

Маладзечанскі адзінаборца **Вадзім Роліч** падпісаў праўладны ліст спартсменаў.

Роліч знаходзіцца ў спісе пад №4009. Ён – майстар спорту міжнароднага класа, чэмпіён Еўропы і чэмпіён Беларусі.

Нагадаем, праўладны ліст спартсменаў з'явіўся як альтэрнатыва лісту Свабоднага аб'яднання спартсменаў, у якім атлеты заклікалі да сумленных выбараў і спынення гвалту.

Карэспандэнт «Рэгіянальнай газеты» спрабавала звязацца з Ролічам, але ён не адказаў на просьбу аб каментары.

**Настасся УТКІНА.**

## Андрэй Сцяпанаў сышоў з «Дынама-Маладзечна»

15 снежня стала вядома, што хакеіст Андрэй Сцяпанаў сышоў з маладзечанскага клуба.

Галоўны трэнер «Дынама-Маладзечна» **Канстанцін Кальцоў** так патлумачыў, чаму клуб развітаўся з даведчаным форвардам:

– У яго трошкі не пайшло ў нашай камандзе. Андрэй – майстар высокага ўзроўню, але за нас ён закінуў усяго адну шайбу. Прынялі рашэнне расстацца. Спадзяюся, у іншай камандзе ў яго ўсё складзецца больш удала.

Вядома, што зацікаўленасць у Сцяпанаве праяўляў «Нёман».

**Паводле belarushockey.com.**

## Кудзін: «Мне прыйшлося з'ехаць з Беларусі ў багажніку»

Маладзечанскі адзінаборца **Аляксей Кудзін** у каментарыях у адным з допісаў у «Інстаграме» расказаў, як з'ехаў з краіны.

– Для таго, каб я змог расказаць пра гэта бязмежжа, мне прыйшлося з'ехаць з краіны ў багажніку і пакінуць сям'ю. Я амаль чатыры месяцы маўчаў. І цяпер, лічу, магу расказаць праўду, знаходзячыся ў бяспецы.

Нагадаем, Аляксея Кудзіна затрымалі ў Маладзечне падчас пратэснай акцыі 10 жніўня. Яго абвінавацілі ў збіцці супрацоўніка міліцыі і супраціўленні. Раней Кудзіна асудзілі па адміністрацыйным артыкуле за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве.

**Паводле instagram.com/kudin_alexey_mma.**

## Фонд спартыўнай салідарнасці адправіў у УЕФА і ФІФА заяву аб парушэннях з боку федэрацыі футбола Беларусі

Фонд спартыўнай салідарнасці накіраваў афіцыйныя заявы ў УЕФА і ФІФА з просьбай звярнуць увагу на факты парушэння правоў спартсменаў, работнікаў федэрацый і журналістаў у беларускім футболе.

У лістах паведамляецца пра шматлікія парушэнні Устава УЕФА з боку беларускай федэрацыі футбола. У прыватнасці, па паведамленні Фонду спартыўнай салідарнасці, федэрацыя аказвае ціск на гульцоў і спартыўных спецыялістаў з-за іх грамадзянскай пазіцыі.

Таксама Фонд салідарнасці заклікаў УЕФА і ФІФА прыпыніць усе грашовыя выплаты беларускай футбольнай федэрацыі за выключэннем фінансавай дапамогі, звязанай з развіццём клубаў, падтрымкай гульцоў і спецыялістаў. Яшчэ адна з просьбаў: накласці пажыццёвую забарону на ўдзел у любой дзейнасці, звязанай з футболам, старшыні федэрацыі **Уладзіміру Базанаву**, намеснікам **Юрыю Вяргейчыку**, **Міхаілу Бортнікаву** і **Аляксандру Баранаву**.

**Паводле facebook.com/bssfbel.**

## Хабіб прызнаны спартыўнай зоркай года па версіі BBC

Чэмпіён UFC у лёгкай вазе **Хабіб Нурмагамедаў** стаў спартыўнай зоркай года па версіі BBC.

Расійскі баец абагнаў шведскага скакуна з шастом **Армана Дупланціса**, амерыканскага баскетбаліста **Леброна Джэймса**, амерыканскага гальфіста **Дасціна Джонсана**, французскую футбалістку **Вэндзі Рэнар** і ірландскую жанчыну-баксёра **Кэці Тэйлар**.

У 2019 годзе гэты тытул ад BBC атрымаў марафонец **Эліўд Кіпчогэ**.

Нурмагамедаў у кастрычніку 2020 года перамог **Джасціна Гейджы**, а пасля аб'явіў аб завяршэнні кар'еры.

## У «Прэсболе» – новы галоўны рэдактар

У «Прэсболе» з'явіўся новы галоўны рэдактар. Адтуль пачалі звальняцца журналісты і знікаць навіны.

У адным з галоўных спартыўных выданняў Беларусі «Прэсбол» трэці новы галоўны рэдактар за паўгода. **Сяргей Кайко** сышоў летам, а **Дзмітры Герчыкаў** пакінуў пасаду ў лістападзе. На пасаду ў «Прэсбол» назначылі былога журналіста АНТ **Сяргея Лісічкіна**.

Спачатку Лісічкін пасля гутаркі з калектывам адмовіўся ад пасады, а на наступны дзень афіцыйна заявіў, што стаў галоўным рэдактарам. У хуткім часе з газеты звольніліся намеснік галоўнага рэдактара **Уладзімір Пірог** і журналіст **Сяргей Мардасевіч**.

Пасля вызвалення экс-прэс-сакратара «Дынама-Брэст» **Вольгі Хіжанковай** з ізалятара часовага ўтрымання за ўдзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах пасля 42-дзённага арышту, з сайта «Прэсбола» пачалі знікаць аб гэтым навіны. Спачатку з'явілася навіна пра адбыццё Хіжанковай арышту – затым яе выдалілі. Пасля навіна зноў з'явілася з допісам: "І той, хто зноў здыме ці выдаліць гэту навіну – чалавек без сумлення». Яе апублікаваў журналіст **Сяргей Южык**. Ён паведаміў, што гэта можа быць яго апошняя навіна для «Прэсбола». Запіс зноў выдалілі, а пасля аднавілі з допісам: «Не трэба затыкаць рот сумленным журналістам «Прэсбола» ганебным выдаленнем навіны і яе абмеркаваннем».

**Настасся УТКІНА.**

# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Японцы распрацавалі будзільнік, які ў патрэбны час выдае не мелодыю, а прыемны …
2. Вёска ў Калінкавіцкім раёне, дзе каля 26 тысяч гадоў таму была стаянка эпохі палеаліту.
4. Выпадкова, ненаўмысна.
6. Яе выраблялі на фабрыцы ў Смаргоні, заснаванай у 1590 годзе.
8. Складана паверыць, але ў 21 стагоддзі ёсць некалькі народаў, якія жывуць першабытным ладам. Сентынельцы ў Бенгальскім заліве карыстаюцца коп'ямі і лукамі, не ўмеюць здабываць агонь і вельмі агрэсіўна рэагуюць на чужакоў. Калі вучоныя спрабавалі наладзіць з імі кантакт, то даставілі пасылку з некалькімі прадметамі. Какосы жыхары з'елі, свінню забілі і закапалі. Закапалі і яшчэ адзін прадмет, прызначаны бавіць дзяцей. Які?
9. Адной з прычын Тэхаскай рэвалюцыі 1835 года і наступнага далучэння Тэхаса да ЗША стала адмена … у Мексіцы.
10. Сукупнасць прадметаў аднолькавага прызначэння.
11. Норма, у межах якой дазволена карыстацца чым-небудзь.
12. Менавіта яно выратавала Эйфелеву вежу. Яе збіраліся дэмантаваць праз 20 год. Але за гэты час на вежы стаялі прыстасаванні, каб працавала яно.
16. Аргенцінскі бальны танец.
17. Тое, што баіцца майстра.
18. Знак для абазначэння ліку.
19. Дэвіз «Свабода, роўнасць, братэрства» выкарыстоўвалі французскія рэвалюцыянеры. З часам фраза стала дэвізам дзвюх краін. Назавіце, якой, акрамя Францыі.
22. Ой, ладачкі-ладкі, надышлі …
23. Форма, крой.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
1. Ганарлівыя адносіны.
3. Для іх кожную раніцу да Акропаля прывозяць дробныя камяні.
5. Паглыбленне ў сцяне.
7. У часовае карыстанне за плату.
8. Адчайны, немы крык як праяўленне жаху, як кліч на дапамогу.
10. У напрамку, процілеглым першапачатковаму руху; у зваротным напрамку.
13. Французскія рэвалюцыянеры захапілі гэты аб'ект не столькі таму, што гэта была турма і каб вызваліць зняволеных. Найперш, каб завалодаць зброяй і порахам.
14. У спякотнай пустыні да яго заўсёды два-тры кіламетры.
15. Тое, што ўтвараецца ад няпоўнага згарання; нараст ад гарэння.
17. Частка збудавання, канструкцыі, якая складаецца з некалькіх дэталяў.
20. Недарэчнасць, бязглуздзіца, лухта.
21. Мат, вакзал, мабіль, партрэт, спын. Якое слова трэба дадаць перад гэтымі, каб атрымаць новыя?
24. Першыя еўрапейскія наведнікі Новай Галандыі запэўнівалі, што краіна заселеная істотамі, якія ўяўляюць сабой сумесь алення, птушкі і жабы. Што гэта за жывёла?
25. Рэзкі высокі гук, які ўтвараецца моцным выдыханнем паветра праз сціснутыя губы ці зубы.

## Адказы на крыжаванку з №51

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 3. Шлак. 4. Зграя. 5. Пенал. 6. Дабрата. 8. Гордасць. 9. Васіліса. 13. Жоўты. 14. Галава. 16. Злоце. 20. Ігар. 22. Гуслі. 23. Рэклама. 24. Засвоіць. 27. Ватыкан.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Селядзец. 2. Танзанія. 6. Дэйл. 7. Краса. 10. Авечкі. 11. Зацірка. 12. Кароль. 15. Дотык. 17. Талерка. 18. Вінаград. 19. Снег. 21. Ягайла. 25. Лясы. 26. Крэва. 28. Уклад.

● ГАРАСКОП НА 25-31 СНЕЖНЯ

## Падбярыце навагодні падарунак знакам задыяка


**АВЕН.** Яны яркія і актыўныя, любяць новыя ўражанні. Выдатным падарункам будзе білет у тэатр ці на канцэрт, паездка ў цікавае месца, экстрэмальная забаўка. Таксама варта звярнуць увагу на прылады для творчых заняткаў.


**ЦЯЛЕЦ.** Самы практычны знак. Лепш абмеркаваць з ім загадзя, што ён хацеў бы атрымаць. Але калі хочацца зрабіць сюрпрыз, хай падарунак будзе практычны, які дапаможа ў побыце або працы. Удалым падарункам стане пакаёвая расліна.


**БЛІЗНЯТЫ.** Той знак, якому прыйдзецца па душы яркае ўпрыгожанне, але, вядома, яно павінна быць падабранае з густам. Таксама парадаваць прадстаўнікоў гэтага знака можна прысмакамі.


**РАК.** Любяць утульнасць і пяшчоту, таму падарунак можа быць звязаны з домам. Калі гэта блізкі чалавек, яго пацешыць любая сентыментальная дробязь, звязаная з адносінамі. Таксама добрым навагоднім падарункам стане кніга.


**ЛЕЎ.** Звычайна спалучаюць прыгажосць і інтэлект. Будуць рады ўпрыгожванням – як для сябе, так і для дому. А таксама падарункам, якія падкрэсліваюць статус – гадзіннікам, партаманету. Жанчыне-Льву прыйдзецца па душы касметыка.


**ДЗЕВА.** Той знак, якому можна дагадзіць практычным падарункам для дома: пледам, абрусам, посудам. Добрым падарункам стане канцылярыя або кніга. Але не проста мастацкая, а звязаная з канкрэтнымі інтарэсамі чалавека.


**ШАЛІ.** Знак вельмі лёгка парадаваць падарункам, асабліва калі ён будзе звязаны з прыгажосцю або ўтульнасцю. Але, выбіраючы штосьці для дома, трэба быць уважлівым да інтэр'еру. У Шаляў усё павінна ідэальна спалучацца адзін з адным. А яшчэ Шалі любяць сюрпрызы.


**СКАРПІЁН.** Мабыць, як ніхто іншы цэняць увагу. Іх можна спытацца пра падарунак загадзя. Але калі адгадаць жаданні і інтарэсы, Скарпіёны будуць проста ў захапленні. Падыдзе і саматробны падарунак, калі ўмееце майстраваць нешта сапраўды прыгожае.


**СТРАЛЕЦ.** Будуць рады рэчам, звязаным з іх асноўным захапленнем, а таксама аксесуарам для падарожжаў. Добрым навагоднім падарункам для Стральца стане аўтамабільны гаджэт або інавацыйны бытавы прыбор.


**КАЗЯРОГ.** Нягледзячы на знешнюю халаднасць, вельмі шануюць увагу і клопат. У падарунку для іх павінна быць індывідуальнасць. Варта падкрэсліць, чаму абралі для Казярога менавіта такі прэзент.


**ВАДАЛЕЙ.** Узрадуюцца незвычайнаму сюрпрызу, хай нават ён не будзе несці практычнай карысці. Парадуе бірулька, карціна, ёлачныя цацкі – галоўнае, каб падарунак вылучаўся з агульнай масы.


**РЫБЫ.** Узрадуюцца падарунку, звязанаму з творчасцю, з іх захапленнямі. Прадстаўнікі знака будуць не супраць упрыгожыць дом карцінай або календаром. Летуценных Рыб можа вельмі ўзрадаваць фотасесія.

**Эмілія ХВОЯ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 5 | 1 | | | 2 | 9 | | |
| 6 | 7 | | | 8 | | | 4 | |
| | | 9 | 7 | | 1 | | 8 | |
| | | | 8 | | 3 | 6 | 5 | |
| 3 | | 5 | | | | 4 | | |
| 7 | 6 | | | | | 3 | | |
| | | 7 | | 2 | | 1 | | |
| | | 6 | | 9 | | 8 | | |
| 2 | | | | | 4 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета.

Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!

RG_RHBY

## Дзяды Марозы са Снягуркамі ўсё ж пройдуць па плошчы

ВІЛЕЙКА

**Пра гэта нам паведамілі ў аддзеле культуры, ідэалогіі і па рабоце з моладдзю Вілейскага райвыканкама.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Летась на святочным шэсці ў Вілейцы.

Раней меркавалі, што шэсце адменяць з-за эпідэміялагічнай абстаноўкі. А цяпер паведамілі, што шэсце ўсё ж правядуць.

Свята адбудзецца 28 снежня ў 14:00 на цэнтральнай плошчы.

Удзельнікаў просяць выконваць меры бяспекі пры каронавірусе і сацыяльнае дыстанцыяванне.

Нагадаем таксама, што перад новым годам у Вілейскім Палацы культуры пакажуць навагодняе прадстаўленне. А 1 студзеня, ад 1:00 да 3:00, на цэнтральнай плошчы ля навагодняй ялінкі ахвотных чакае канцэртная праграма, якую зладзяць мясцовыя артысты.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Чытайце праз тыдзень:

- **Хто ж стаў Асобай года-2020 па версіі «Рэгіянальнай газеты»? Называем імёны галоўных герояў Павілля, пра якіх расказвалі на старонках выдання.**

## 26 снежня, субота

**Вецер:** паўночна-заходні, 5-6 м/с




### ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я. ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература -28,3°С у 1996 годзе
Максімальная тэмпература +7,5°С у 2011 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 10,8 мм у 1974 годзе

Паводле meteoinfo.by.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Якое ваша рашэнне ў 2020 годзе было самым важным?



**Яўген, Маладзечна:**
– У гэтым годзе ажаніўся.



**Вікторыя, Мінск, родам з Вілейкі:**
– Вызначыць, як буду працаваць пасля заканчэння дэкрэтнага адпачынку.



**Алеся, Маладзечна:**
– Быць незалежным назіральнікам.



**Марыя, Маладзечна:**
– Зноў пачаць размаўляць на роднай мове.



**Зміцер, Маладзечна:**
– Эміграваць.



**Аляксандра, Маладзечна:**
– У 2020 вырашылі з мужам пераехаць на хутар. Цяпер жывем на Павіллі, парадкуем хату, чысцім стары сад, а ў нядзелю любім пагуляць у горадзе.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**



Яшчэ больш апытанак вы можаце пабачыць на нашым канале ў Youtube. Мы распытвалі жыхароў Маладзечна пра стаўленне да чырвона-зялёнага і бел-чырвона-белага сцягоў, хто такія беларусы і ці патрэбнае смяротнае пакаранне ў Беларусі.
**youtube.com/rhby_media**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№52 (1339) 25.12.2020. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 2134. Падпісана ў друк у 9.00 23.12.2020.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама), **53-78-05** (журналісты), **53-78-06** (факс), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.**
Web: **https://rh.by.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.